

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# НАША СЛОВА

Газета выходзіць з сакавіка 1990 года

№ 6 (1521) 10 ЛЮТАГА 2021 г.


# За бел-чырвона-белы сцяг скажам слова

## Алена Анісім:
### *На тым баку дзейнічаюць антыбеларускія сілы*

Старшыня Таварыства беларускай мовы Алена Анісім пракаментавала магчымасць прызнання бел-чырвона-белага сцяга экстрэмісцкім.



**Алена Анісім:**

- Шчыра кажучы, яшчэ год таму ніхто не мог і падумаць, што бел-чырвона-белы сцяг могуць прызнаць экстрэмісцкім. Іншая справа, што трывожныя званочкі ўжо былі раней. Калі гербу "Пагоня" надалі статус гістарычна-культурнай каштоўнасці, то бел-чырвона-белы сцяг такі статус не атрымаў, нягледзячы на розныя захады грамадскасці. Акадэмія навук выступіла супраць, і ўжо гэта павінна было насцярожыць. З іншага боку, не чакалася, што гэта дойдзе да такой сітуацыі, калі не толькі-бел-чырвона-белы сцяг акажацца пад забаронай, а нават такое спалучэнне колераў на вопратцы, на вокнах ці нават на снегавіку. Адпаведна робіцца ўсе захады, каб забараніць яго, ідзе праслед усёй такой жа каляровай гамы. Гэта сведчыць пра тое, што на тым баку дзейнічаюць антыбеларускія і антынацыянальныя сілы.

**РР:**

- Мяркуеце, што бел-чырвона-белы сцяг усё-такі прыраўняюць да экстрэмісцкай сімволікі?

**Алена Анісім:**

- Пакуль мне складана зразумець, якая сёння раскладка сілаў у тых, хто пры ўладзе. Думаю, нават у найбольш адданых рэжыму асобаў не ўсё пакуль страчана і згублена ў плане стаўлення да нацыянальнага...

***Кастусь Заблоцкі,***
***Беларускае Радыё Рацыя.***

## Дырэктар Інстытута гісторыі:
### *Бел-чырвона-белы сцяг не вінаваты ў тым, хто яго выкарыстоўваў*

У пачатку лютага была створана **Рэспубліканская экспертная камісія** па ацэнцы інфармацыйнай прадукцыі на прадмет наяўнасці ці адсутнасці ў ёй прыкметаў экстрымізму. Сярод сілавікоў і чыноўнікаў там знайшлося месца і аднаму гісторыку - дырэктару Інстытута гісторыі Акадэміі навук **Вадзіму Лакізе.**



"Наша Ніва" пацікавілася думкамі спадара Лакізы пра магчымае прызнанне бел-чырвона-белага сцяга экстрэмісцкім, пра што нядаўна гаварылі прадстаўнікі Генеральнай пракуратуры.

- Правільная, добрая камісія, я даў згоду на сваё ўключэнне ў яе склад. Кожная краіна мае такія камісіі. Сітуацыя ж ва ўсім свеце няпростая: і пандэмія, і геапалітычная сітуацыя складаная.

Камісія яшчэ не збіралася, пытанне аб бел-чырвона-белым сцягу перад намі не ставілася. Я адсочваю ўсю інфармацыю, і ў недзяржаўных, і ў дзяржаўных СМІ. І пакуль не ведаю, пра што тут можна турбавацца.

Калі я выкажу меркаванне як член камісіі, то гэта будзе суб'ектыўна. Паспрабую выказацца як кіраўнік Інстытута гісторыі НАН. Апублікавана вельмі шмат матэрыялаў на гэтую тэму, я абапіраюся толькі на навуковыя факты, яны выкладаліся і раней у адказах на звароты грамадзян. Гэта ўсё факты, іх нельга ні замоўчваць, ні перабольшваць, ні змяншаць. Трэба дакладна паказваць грамадству ўсё: ад моманту з'яўлення сцяга да 1995 года.

Так, бел-чырвона-белы сцяг выкарыстоўваўся калабарацыяністамі - гэта прызнаюць усе. Гэты сцяг быў дзяржаўным у Рэспубліцы Беларусь - гэта таксама важны факт. **Сцяг не вінаваты ў тым, хто яго выкарыстоўваў.** А выкарыстоўвалі канкрэтныя людзі...

... Гісторыя павінна выкарыстоўвацца ў нацыянальных інтарэсах дзяржавы, працаваць на аб'яднанне грамадства. І я заўсёды выступаў і выступаю за гэта.

Хачу працытаваць адзін з адказаў, падрыхтаваных спецыялістамі Інстытута гісторыі: *"У гады Вялікай Айчыннай вайны мела месца выкарыстанне бел-чырвона-белых сцягоў на публічных мерапрыемствах з прапагандысцкімі мэтамі. Адбывалася гэта з ініцыятывы калабаранцкіх арганізацый Астроўскага, Ермачэнкі, Ганько і іншых, якія дзейнічалі на тэрыторыі генеральнай акругі "Беларусь" у 1941-1944 гадах.*

*Аднак не выяўлена дакументаў аб афіцыйным дазволе германскімі акупацыйнымі ўладамі аб выкарыстанні бел-чырвона-белых сцягоў калабаранцкімі арганізацыямі. У саміх статутах гэтых арганізацый бел-чырвона-белая сімволіка не згадвалася.*

*Разам з тым, ва ўспамінах удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны і архіўных крыніцах можна знайсці такія сведчанні. Беларускімі нацыяналістамі, Беларускай краёвай абаронай, Беларускай грэнадзёрскай брыгадай СС "Беларусь" пад бел-чырвона-белым сцягам праводзіліся карныя аперацыі супраць партызан і мірных жыхароў. Так была знішчана вёска Бабровічы Целяханскага раёна...*

*... Па праблеме ўзнікнення і выкарыстання бел-чырвона-белага сцяга ў энцыклапедычных выданнях і гістарычных даведніках існуюць розныя пункты гледжання, што сведчыць аб неабходнасці далейшага навуковага даследавання пытання".*

***ЗП https://nn.by. Фота "Мінск-навіны"***

# Два стагоддзі на дваіх



*Іван Мележ і Іван Шамякін*

**Іван Мележ** (8 лютага 1921, в. Глінішча, Хойніцкі раён, Гомельская вобласць - 9 жніўня 1976, Менск) - беларускі празаік, драматург, публіцыст. Народны пісьменнік Беларусі (1972). Лаўрэат Ленінскай прэміі (1972, за раман "Людзі на балоце" і "Подых навальніцы"), Дзяржаўнай прэміі імя Якуба Коласа (1976, за зборнік "Жыццёвыя клопаты"), Літаратурнай прэміі імя Якуба Коласа (1962, за раман "Людзі на балоце").

Нарадзіўся ў звычайнай сялянскай сям'і . У Івана было звычайнае вясковае дзяцінства і юнацтва. Вучыўся ён аж у трох школах: у пачатковай - у родным Глінішчы, у сямігодцы - у Алексічах, заканчваў дзесяцігодку ў Хойніках.

У 1939 годзе І. Мележ становіцца студэнтам маскоўскага інстытута, але з першага курса прызваны ў армію. З першых дзён Вялікай Айчыннай вайны ён на фронце. Ваяваў над Нікалаевам і Растовам-на-Доне. У ліпені 1941 года быў сур'ёзна паранены ў правае плячо над Растовам і адпраўлены ў шпіталь у Тбілісі. У 1942 годзе скончыў курсы палітработнікаў і быў камандзіраваны ў 51-ю стралковую дывізію супрацоўнікам газеты. Пасля другога ранення пісьменнік атрымаў інваліднасць, і камісія прызнае яго "нягодным да страявой службы". У 1943-м пераводзяць у Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, які грунтаваўся тады на падмаскоўнай станцыі Сходня.

Працаваў у рэдакцыі часопіса "Полымя", у апараце ЦК КПБ. Член Саюза пісьменнікаў СССР з 1945, у 1966 годзе робіцца сакратаром Саюза пісьменнікаў БССР, а ў 1971-1974 гадах працуе намеснікам старшыні праўлення гэтай арганізацыі.

Выбіраўся дэпутатам ВС БССР (1967-1976). Іван Мележ быў старшынёй праўлення Беларускага аддзялення таварыства "СССР - Францыя", старшынёй Беларускага камітэта абароны міру, членам Сусветнага Савета Міру.

*Вікіпедыя.*

**Іван Шамякін** (30 студзеня 1921 - 14 кастрычніка 2004, Менск)- беларускі празаік, драматург, публіцыст. Народны пісьменнік Беларусі (1972), акадэмік АН Беларусі (1994). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1951) за раман "Глыбокая плынь", Літаратурнай прэміі імя Якуба Коласа (1957) за раман "Крыніцы", Дзяржаўнай прэміі імя Якуба Коласа (1967) за раман "Сэрца на далоні" і пенталогію "Трывожнае шчасце", Літаратурнай прэміі Міністэрства абароны СССР (1978) за кнігу "Гандлярка і паэт. Шлюбная ноч", Дзяржаўнай прэміі БССР у галіне тэатральнага мастацтва, кінэматаграфіі, радыё і тэлебачання (1982) за кінафільм "Вазьму твой боль".

Нарадзіўся ў вёсцы Карма Добрушскага раёна (цяпер Гомельская вобласць). Скончыў Гомельскі тэхнікум будаўнічых матэрыялаў (1940). У 1940-1945 гадах служыў у Чырвонай Арміі - удзельнічаў у баях пад Мурманскам, у вызваленні Польшчы, у баях на рацэ Одра. У 1945-1948 гадах настаўнічаў у вёсцы Пракопаўка Цярахоўскага раёна (зараз Чарацянскі сельсавет Гомельскага раёна). З 1946 года вучыўся на завочным аддзяленні Гомельскага педінстытута.

У 1976-1980 гадах - першы сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў БССР. З 1980 і да вясны 1992 года - галоўны рэдактар выдавецтва "Беларуская Савецкая Энцыклапедыя". Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР (1963-1985) і СССР (1980-1989). Старшыня Вярхоўнага Савета БССР (1971-1985). З 1987 года старшыня Беларускага камітэта абароны міру.

Герой Сацыялістычнай Працы (1981). Узнагароджаны двума ордэнамі Леніна, трыма ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга, ордэнамі Кастрычніцкай Рэвалюцыі, Айчыннай вайны II ступені, "Знак Пашаны", мэдалём Францыска Скарыны і іншымі медалямі.

*Вікіпедыя.*

# Самы дарагі пратаып гераінь Івана Шамякіна

У год стагоддзя Івана Шамякіна чытачы даацэньваюць яго багатую і разнастайную творчую спадчыну: апавяданні, аповесці, раманы, драматычныя і публіцыстычныя творы, эпісталярый, дзённікі, мемуары і яго добрыя рысы як чалавека.

Творчасць і грамадская дзейнасць І. Шамякіна знайшла шырокае прызнанне. Ён быў Народным пісьменнікам Беларусі, Героем Сацыялістычнай працы (1972), акадэмікам НАН Беларусі (1994), лаўрэатам Сталінскай прэміі СССР (1951) і Дзяржаўнай прэміі БССР (1968), Дзяржаўнай прэміі БССР у галіне тэатральнага мастацтва, кінематаграфіі, радыё і тэлебачання (1982), узнагароджаны шматлікімі ордэнамі і медалямі.

Заслужаны фармацэўт з Менска, дачка партызанскіх дактароў, Валянціна Іванаўна Салавей не аднойчы сустракалася з І. П. Шамякіным. "Іван Пятровіч быў вельмі даступным, шчырым, чалавечным", - узгадвае Валянціна Іванаўна.

- Я вельмі люблю перачытваць яго творы "Сэрца на далоні", "Гандлярка і паэт", - кажа Валянціна Іванаўна. Асабліва блізкай для мяне з'яўляецца аповесць "Слаўся, Марыя" з кнігі "Пошукі прытулку", у якой пісьменнік апісаў жыццё сваёй жонкі. Іх каханне было ўзаемным і ахвярным, яны жылі адзін для аднаго. Марыя Філатаўна стала прататыпам многіх жанчын у шамякінскіх раманах, аповесцях. Бліжэй за ўсіх з іх - Саша Траянава з "Трывожнага шчасця". Чытач даведаецца больш пра Марыю Філатаўну са старонак кнігі Міхася Мушынскага "Летапіс жыцця і творчасці І. Шамякіна".

Яны пазнаёміліся яшчэ дзецьмі падчас вучобы ў Церухскай школе. Бацька Машы быў лесніком, яго пераводзілі з месца на месца. Пасля заканчэння 5-га класа Іван Шамякін з сям'ёй пераехаў у іншую вёску. Зноў ён сустрэўся з Машай ў Гомелі, дзе ён вучыўся ў тэхнікуме будаўнічых матэрыялаў, а яна - у медвучэльні. Хадзілі ў кіно, гулялі ў парку Паскевічаў-Румянцавых.

26 красавіка 1939 года ён апісаў у дзённіку спатканне з Машай :

*"Маша была без паліто, без платка. Прыгожыя яе прыродна-завітыя пасмы валос шавяліў пяшчотна вецер. Яна выглядала такой маленькай, але такой прыгожай і добрай, была вясёлай і ласкавай."*

Яе накіравалі фельшарам-акушэрам у Рэчыцкі раён, а Івана - у Беластоцкую вобласць. Яны падтрымлівалі кантакты праз ліставанне.

*"1 мая 1940 года Іван Пятровіч Шамякін пабраўся шлюбам з Марыяй Філатаўнай*



*Кротавай, фельдшарам-акушэрам вёскі Артукі Рэчыцкага раёна"*, - адзначыў у "Летапісе…" Міхась Мушынскі.

Пасля вызвалення ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў Марыю Філатаўну накіравалі ў вёску Пракопаўка, дзе яна загадвала фельчарскім пунктам і аптэкай. На перавязкі да яе ішлі інваліды, іх нельга была пакінуць без ёду і бінтоў. Па медыкаменты яна ездзіла ў Гомель у аптэкакіраванне. У 1944 годзе здарылася эпідэмія сыпняку. У бальніцы, разлічанай на 20 ложкаў, на падлозе ляжала да сотні чалавек. У такіх умовах Маша заразілася тыфам і заразіла маленькую дачку Ліну. Ратавалі іх хворыя, тыя ж інваліды: прыносілі прадукты, хто што меў, гаіла чалавечая дабрыня.

*"Маша працавала з вялікай самаадданай,* - успамінае Іван Пятровіч на старонках аповесці "Слаўся, Марыя," - *Я яшчэ спаў, а яна ўжо прымала ў амбулаторыі хворых. Жылі мы вельмі бедна. Можа, гэта гучыць парадаксальна, але я упэўнены, што нястачы, беднасць і бескарысная адданая праца для людзей умацоўвалі нашу любоў. Менавіта - любоў, яднанне дзвюх душ. Каханне - гэта агонь, які запаліста ўспыхвае, але лёгка можа патухнуць. Гэта - песня, якая дае асалоду, але можа і скончыцца. А калі з'яўляецца любоў, то яна звязвае навечна. Яна жыла з цвёрдай упэўненасцю ў трываласці нашага кахання, нашага жыцця. І гэта напаўняла нашыя адносіны асаблівай, самай высокай радасцю.*

*Пасля пераезду ў Мінск я наняў пакойчык метраў на дванадцаць па Лагойскім тракце, амаль побач з Домам друку ў старым драўляным доме. Мілая, родная, блізкая, хадзіла па нашых разліках на апошнім месяцы цяжарнасці. З вялікім хваляваннем мы спяшаліся пераехаць. Добра, што да 1-ай бальніцы рукой падаць…Накарміўшы Ліну, я пабег у радзільнае аддзяленне.*

*Выйшла сястра:*

*- У вас толькі што нарадзілася дачка.*

*Ледзьве не самлеў ад шчасця. З глыбокім хваляваннем напісаў Машы пісьмо…*

*А за год да новай кватэры 8 верасня 1950 года, менш як праз 2 гады пасля Танечкі, у нас нарадзіўся сын Саша, наша радасць і наш найбольшы боль у жыцці. Само яго нараджэнне прынесла бяду: у раддоме Машы занеслі інфекцыю, тры дні яна знаходзілася ў крытычным стане. Які жахлівы страх я перажыў! Страціць Машу - о, Божа! Застацца ўдаўцом, маючы трох дзяцей! Бог быў літасцівы да Машы, да дзяцей, да мяне. Праз месяц я прывёз яе ў цесныя пакойчыкі.*

*Трое дзяцей, муж, дабрабыт на сярэднім узроўні. Саюз пісьменнікаў выдзеліў нам у студзені 1950 года на дваіх адну*





*чатырохпакаёвую кватэру, у новым доме, у цэнтры горада на вул. Карла Маркса".*

Пасля ўгавораў дачкі Таццяны, доктара філалагічных навук, прафесара БДУ, Іван Шамякін пачаў весці дзённік больш рэгулярна, і ў канцы 1990-ых гадоў ім была створана аповесць "Слаўся, Марыя", а таксама цыкл "Начныя ўспаміны".

*"Чаго табе хочацца, а, жанчына?"*- разважаў пісьменнік. *- З пераезду ў Мінск яна марыла пра вучобу. Але паступіць у медыцынскі на дзённае аддзяленне, маючы трох дзяцей было немагчыма. Яна пайшла ў педагагічны інстытут на вячэрняе аддзяленне, бо разумела, які мне трэба памочнік - філолаг! Маючы груднное дзіця, Маша пачала рыхтавацца ў інстытут. Выдатна вытрымала ўступныя экзамены і стала студэнткай педінстытута. На заняткі хадзіла, як на свята, хоць нямала і прапускала - хварэлі дзеці. Маша хутка асвоіла пішучую машынку, друкаваць ёй даводзілася шмат. Акрамя раманаў, аповесцяў, у тыя гады я выдаваў шмат публіцыстыкі.*

*У бальніцах яна наведвала ўсіх, хто быў блізкі да нашай сям'і. Дзяцей Маша песціла, больш, чым трэба, ні ў чым не адмаўляла ім.*

*Нельга не адзначыць яшчэ адной яе істотнай рысы: яе прастаты, дэмакратычнасці, для яе ўсе людзі былі роўныя - ці міністр, ці просты рабочы. Яна жыла ў пісьменніцкім асяроддзі, яе там паважалі, любілі, але ў яе нямала было блізкіх работніц, сялянак, з якімі яна шчыра сябравала".*

*"27 мая 1998 года памерла Марыя Філатаўна"*, - адзначыў Міхась Мушынскі ў "Летапісе жыцця і творчасці І. Шамякіна".

На памінальным абедзе ў дзень пахавання Марыі Філатаўны Іван Пятровіч сказаў, што Марыя была "бясцэннай і незамянімай памочніцай" у яго пісьменніцкай працы, яна перадрукавала " не адзін дзясятак тысяч старонак рукапісаў" і прачытала тысячы старонак карэктур.

***Падрыхтавала Э. Дзвінская.***

На здымках: Іван Шамякін з сям'ёй, фота з архіва пісьменніка.

## Прапановы аб дапаўненні "Плана дзейнасці ТБМ на 2021 год"

Прапаную ўключыць у зацверджаны "План дзейнасці ТБМ на 2021 год" (Наша слова № 4, 2021 г.) наступныя віды дзейнасці:

**1. Раздзел "Стратэгія і тактыка ТБМ"**

1.1. За адзіную дзяржаўную беларускую мову ў Рэспубліцы Беларусь.

Тэрмін выканання: на працягу года.

Адказны за выкананне: ганаровы старшыня ТБМ А. Трусаў, дзейсны старшыня ТБМ А. Анісім.

1.2. Распрацаваць, зацвердзіць і давесці праз СМІ канкрэтныя віды грамадскай дзейнасці ўсімі структурамі ТБМ па лёсавызначальнай і катастрафічнай праблеме: **"Толькі адзіная дзяржаўная беларуская мова ў Рэспубліцы Беларусь выратуе яе ад вымірання".**

Тэрмін выканання: на працягу года.

Адказны за выкананне: ганаровы старшыня ТБМ А. Трусаў, дзейсны старшыня ТБМ А.Анісім, Рада ТБМ, сакратарыят.

**2. Раздзел "Арганізацыйная работа"**

2.1. Аднавіць жыццядзейнасць арганізацый ТБМ ва ўсіх дзевяці раёнах г. Менска.

Тэрмін выканання: на працягу года.

Адказны за выкананне: ганаровы старшыня ТБМ А. Трусаў, дзейсны старшыня ТБМ А. Анісім, гарадская Рада ТБМ, сакратарыят.

2.2.Аднавіць прадметныя камісіі (па ранейшым спісе), арганізаваныя першым старшынём Нілам Гілевічам.

Тэрмін выканання: на працягу года.

Адказны за выкананне: ганаровы старшыня ТБМ А. Трусаў, дзейсны старшыня ТБМ А. Анісім.

2.3. Аднавіць былыя ў 90-я і нулявыя гады суполкі ТБМ ва ўніверсітэтах і іншых адукацыйных установах Менска і іншых гарадах.

Тэрмін выканання: на працягу года.

Адказны за выкананне: ганаровы старшыня ТБМ А. Трусаў, дзейсны старшыня ТБМ А. Анісім, Рада ТБМ.

2.4. Уключыць у арбіту дзейнасці ТБМ настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры і вучняў школ.

Тэрмін выканання: на працягу года.

Адказны за выкананне: ганаровы старшыня ТБМ А. Трусаў, дзейсны старшыня ТБМ А. Анісім, Рада ТБМ.

З павагай! прафесар

***Мікола Савіцкі***

4.02.2021 г.

*(Праця̆г. Пачатак у папярэднім нумары)*

Сымон Барыс

# Падзеі 2020 года

**3 красавіка.** Генеральная Асамблея ААН прыняла рэзалюцыю для аб'яднання краін свету ў барацьбе супраць пандэміі каронавіруса.

**3 красавіка.** У Беларусі 351 чалавек хворы на каронавірус, з іх 190 - у Менску, 89 - у Віцебскай вобласці, 1 - у Берасцейскай вобласці, 50 - у Менскай вобласці, 2 - у Магілёўскай вобласці.

**7 красавіка**. У Палацы Незалежнасці А. Лукашэнка правёў нараду з урачамі.

**7 красавіка** рашэннем Мінскага гарадскога выканкама № 1069 у Мінску быў зацверджаны План прафілактычных мер па барацьбе з каранавірусам. Устаноўлены правілы абавязковыя да выканання для ўсіх аб'ектаў гаспадарання, размешчаных у горадзе Мінску

**8 красавіка.** Хворых на каронавірус у Беларусі 1066 чалавек. 13 такіх хворых памерлі.

**11 красавіка.** У Мінску ўжо заквітнеў дзьмухавец.

**12 красавіка.** У католікаў і пратэстантаў - Вялікдзень, а ў праваслаўных - Вербніца.

У нашай краіне ўжо выяўлена 2578 хворых на каронавірус. За апошнія суткі захварэла 352 чалавекі, з іх 301 медработнік. Усяго памерлі 26 чалавек.

**15 красавіка.** У Беларусі праведзена 76198 тэстаў на каронавірус. Для гэтага задзейнічаны 24 лабараторыі, якія адкрыты ў рэспубліканскіх навукова-практычных цэнтрах і цэнтрах гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя, а таксама ў прыватных медцэнтрах.

У рэспубліцы зарэгістравана 3728 чалавек з наяўнасцю каронавіруснай інфекцыі. 68 пацыентаў падтрымліваюць з дапамогай апарата штучнай вентыляцыі лёгкіх. 36 пацыентаў, у якіх была выяўлена каронавірусная інфекцыя, памерлі.

**17 красавіка.** У Беларусь прыбыла гумунітарная дапамога з Кітая 30 т грузу для лячэння ад каронавіруса.

У Мінску на кустах і дрэвах раскрыліся пупышкі, з'явіліся лісточкі.

**18 красавіка.** У Мінску ў выдавецтве Зміцера Коласа надрукавана кніга Сымона Барыса "Гонар і слава Беларусі". Тыраж кнігі 99 асобнікаў. Аб'ём кнігі 804 старонкі.

**19 красавіка**. У праваслаўных Вялікдзень.

**20 красавіка.** Колькасць хворых на пандэмію за апошнія суткі павялічылася на 457 чалавек.

*"Усяго, па дадзеных на панядзелак (20 красавіка), зарэгістравана 6264 станоўчых тэсту на COVID-19: у Брэсцкай вобласці - 185, Віцебскай - 1504, Гомельскай - 322, Гродзенскай - 176, Мінскай - 789, Магілёўскай - 265, Мінску - 3023".*

**На 24 красавіка** ў Беларусі 8773 чалавекі хворых.Выздаравела 1120 пацыентаў.

На занятках у школах Беларусі было 37 % школьнікаў.

**25 красавіка.** Быў аб'яўлены рэспубліканскі суботнік

Красавік. Беларусы арганізавалі дапамогу медыкам, якія змагаюцца з каронавірусам

Школы ўпершыню сутыкнуліся з аддаленнай формай навучання з-за каронавіруса.

Культура і рэлігія сышлі ў анлайн.

**На 1 мая** ў Беларусі зарэгістравана 14 917 чалавек з пацверджаным каронавірусам. Ачунялі і выпісаны 2 918 пацыентаў з раней пацверджанай каронавіруснай інфекцыяй.

**З 1 мая** сацыяльная пенсія па ўзросце складае 123,39 рубля, таксама павышаюцца надбаўкі да пенсій і даплаты грамадзянам Беларусі ад 75 гадоў і старэй, а таксама дапамогі па доглядзе за інвалідам I групы або за асобай, якая дасягнула 80-гадовага ўзросту.

Памер мінімальных працоўных і сацыяльных пенсій з 1 мая складае 246 рублёў 78 капеек (раней - 239 рублёў 87 капеек). Сумы новых мінімальных пенсій будуць дзейнічаць да канца ліпеня гэтага года.

**З 1 мая** ў Беларусі аднаразовая дапамога ў сувязі з нараджэннем першага дзіцяці складае 2 467,8 рубля (да гэтага была 2 398,7 рубля), другога і наступных дзяцей - 3 454,92 рубля (раней - 3 358,18 рубля).

**На 1 мая** 2020 года ў Беларусі пражывала 4,7 тысячы ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны, уключаючы двух герояў Савецкага Саюза (на 1 красавіка 2019 года - 6250 чалавек). У нашай краіне таксама пражывае 14,3 тысячы чалавек, якія пацярпелі ад наступстваў вайны.

4 мая. У Мінску з візітам знаходзіўся Прэзідэнт Малдовы Ігар Дадон, з якім вёў перамовы А. Р. Лукашэнка. .

**5 мая.** Дэпутаты Палаты прадстаўнікоў прынялі ў двух чытаннях законапраект аб амністыі ў сувязі з 75-годдзем Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне.

**6 мая.** Міністэрства аховы здароўя паведаміла аб 19 255 хворых каронавірусам ў Беларусі. Колькасць хворых павялічылася на 905 чалавек. Захварэла 500 міліцыянтаў.

Раніцай 6 мая памёр настацель мінскага храма Марыі Магдалены Іаан Харашэвіч. Яму было 87 гадоў.

**6 мая** МЗС Беларусі пазбавіла акрэдытацыі здымачную групу расейскага "Першага канала" і папярэдзіла аб магчымых больш жорсткіх мерах.

**8 мая.** У Беларусі для пацыентаў з COVID-19 і пнеўманіямі выдзелена 18,6 тыс. бальнічных ложкаў. Такую лічбу назвалі ў эфіры тэлеканала "Беларусь-1". З гэтых ложкаў пакуль занята 12,8 тыс.месцаў. Усяго ж у краіне 79,1 тыс. бальнічных ложкаў.Апаратаў ШВЛ дастаткова. Усяго іх 2 257,

**9 мая.** Парад да Дня Перамогі. Мінабароны Беларусі паведаміла пра ўдзел у парадзе 4000 вайскоўцаў, 185 адзінак тэхнікі, гусенічнай і калёснай толькі новыя і мадэрнізаваныя ўзоры вайсковай тэхнікі. Агульная даўжыня парадной калоны склала 2 кіламетры. Над Менскам праляцела баявая авіяцыя ў складзе 42 самалётаў

Трыбуны для гледачоў былі разлічаныя на 11 тысяч чалавек, яны былі амаль цалкам запоўненыя. Людзі стаялі і на вуліцах, але няшмат.

Запрашэнне наведаць парад Перамогі ў цэнтры Мінска прынялі 18 замежных амбасадараў з 45, якія працуюць у Беларусі, распавялі Tut.by у МЗС. Гэта амбасадары Азербайджана, Арменіі, Венгрыі, Венесуэлы, В'етнама, Ірана, КНДР, Казахстана, Кітая, Кіргізстана, Малдовы, Палестыны, Расіі, Славакіі, Турэччыны, Таджыкістана, ААЭ, Сербіі.

**10 мая.** Партыі БНФ і Справядлівы свет адмовіліся ад удзелу ў будучых выбарах у сувязі з пандэміяй.

**11 траўня.** Тэмпература паветра была вышэй за 23 градусы цяпла.

**12 траўня.** Дождж са снегам. Тэмпература паветра 3-6 градусаў цяпла ў Мінску.

**15 траўня**. Ініцыятыўную групу Сяргея Ціханоўскага не зарэгістравалі ў ЦВК, бо сам ён не мог падаць дакументы (быў арыштаваны). Замест яго жонка Святлана Ціханоўская вырашыла сама ісці кандыдатам у Прэзідэнты і падала адпаведныя дакументы ў ЦВК. Там яе зарэгістравалі.

**15 мая.** Беларусь купіла 80 тысяч тон амерыканскай нафты гатунку Bakken.

**16 мая.** З Саудаўскай Аравіі праз Клайпеду ў Полацк прыбудзе першы цягнік у 60 цыстэрнаў, агульны аб'ём партыі - 3,6 тысяч тон. Усяго ў порт Клайпеды танкер даставіў 87 000 тон нафты з Саудаўскай Аравіі для Беларусі.

**17 мая** ў Менску памёр Юрый Зісер - бізнесовец, грамадскі дзеяч і мецэнат, заснавальнік сайта TUT.by. прычынай смерці стала працяглая хвароба. Юрый Зісер нарадзіўся 28 чэрвеня 1960 года ў Львове, у сям'і інжынера і музыканта.

**18 мая.** Па краіне пачаў хадзіць новы цягнік № 606/605 па самым доўгім маршруце ў Беларусі (893 км) з Полацка ў Брэст праз Віцебск, Оршу Магілёў, Лунінец. Адпраўленне з Полацка ў 14 гадзін 44 хвіліны, а прыбыццё ў Брэст ўу 8 35 хвілін. Кошт паездкі ў купейным вагоне 28 рублёў, а плацкартным - 20 рублёў. Маршрут гэтага цягніка стане самым доўгім працяглым чыгуначным маршрутам у Беларусі - 893 кіламетры. На другім месцы па працягласці-маршрут цягніка № 632/631 Гродна-Мінск-Гомель даўжынёй 801 кіламетр.

**19 мая**. Пасяджэнне Вышэйшага Еўразійскага эканамічнага савета праходзіла ў рэжыме відэаканферэнцыі пад старшынствам Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі.

**20 мая**. ЦВК зарэгістравала ініцыятыўныя групы 15 кандыдатаў у Прэзідэнты. Яны будуць збіраць подпісы.

**У ноч на 24 траўня** ў Езярышчы (на поўначы Віцебскай вобласці) тэмпература паветра апусцілася да 1,6 градуса марозу. Ранейшы лакальны антырэкорд складаў мінус 0,2 градуса і быў зафіксаваны ў 1980 годзе.

**27 мая.** Агульная колькасць інфіцыраваных склала 38 956 чалавек, гэта значыць за суткі дадалося 897. Упершыню прыкладна за два дзесяткі дзён у краіне гэты паказчык менш за 900. Колькасць смерцяў складае 214 (плюс 6 да дадзеных за 26 мая). Вылечыліся 15 923 чалавекі (плюс 837 за суткі).

**29 мая** а 20-й гадзіне Сяргея Ціханоўскага затрымалі супрацоўнікі спецназу падчас перадвыбарчага пікету ў Гродне.

**30 мая.** У Гродне і Віцебску моцны вецер валіў дрэвы.

**31 мая**. Каля Камароўскага рынка арыштаваны Мікола Статкевіч. 28 жніўня працягнулі яго арышт яшчэ на 2 месяцы.

Май. У Жыровіцкага Успенскага мужчынскага манастыра ў гэтым годзе адразу два юбілеі: 500 гадоў заснавання мясціны і 550 гадоў здабыцця абраза Божай Маці. Абраз Прасвятой Багародзіцы на гранітным камені з'яўляецца адной з галоўных праваслаўных святынь Беларусі, шанаваных ва ўсім хрысціянскім свеце. З-за пандэміі святкаванне юбілею перанеслі на кастрычнік сёлета.

На плошчы Перамогі ў Мінску з'явіліся пліты з падагрэвам.

**1 чэрвеня.** Запазычанасць Беларусі расійскай кампаніі "Газпрам" - 165 мільёнаў долараў. Беларусь адмаўляе такі доўг.

**3 чэрвеня**. А. Р. Лукашэнка адправіў у адстаўку Урад Сяргея Румаса. Але С. М. Румас сам ужо не раз прасіўся ў адстаўку.

**4 чэрвеня**. Прэзідэнт Беларусі прызначыў прэм'ер-міністрам Рамана Аляксандравіча Галоўчанку. Ён нарадзіўся 10 жніўня 1973 года ў горадзе Жодзіна Мінскай вобласці.

**5 чэрвеня**. На пасаду Міністра інфармацыі прызначаны Ігар Луцкі.

**7 чэрвеня.** Памёр Уладзімір Самойлавіч Басалыга, беларускі графік і шматгадовы кіраўнік Саюза мастакоў Беларусі. Нарадзіўся 1 красавіка 1940 г. у Слуцку.

**8 чэрвеня.** У Лідзе памёр паэт Алесь (Аляксандр Дзям'янавіч) Стадуб, сябра СБП. Нарадзіўся 24 красавіка 1938 года ў в. Юшавічы Нясвіжскага раёна.Выдаў звыш 10 кніг.

**10 чэрвеня.** Зарэгістраваны 51 066 хворых на каронавірус. Сутачны прырост склаў 801 чалавек. Ачунялі і выпісаліся 25 667 пацыентаў з такой хваробай. Памерлі ад гэтай хваробы 288 пацыентаў, з іх 6 чалавек за апошнія суткі.

**10 чэрвеня.** Абнавіліся тэмпературныя максімумы і быў пабіты рэкорд. Так, у Жлобіне тэрмометры зафіксавалі + 33,6°С. Гэты дзень быў самым гарачым у 1999 годзе, тады ў Мазыры тэмпература паднялася да 33,5 градусаў цяпла.

**15 чэрвеня.** Зарэгістраваныя 54680 чалавек са станоўчым тэстам на COVID-19. Усяго праведзена 749 917 тэстаў. За ўвесь перыяд распаўсюджвання інфекцыі на тэрыторыі краіны памерлі 312 пацыентаў з шэрагам хранічных захворванняў з выяўленай каронавіруснай інфекцыяй.

**Раніцай 18 чэрвеня** прэтэндэнта на прэзідэнцкую пасаду Віктара Бабарыку затрымалі разам з яго сынам і кіраўніком ініцыятыўнай групы Эдуардам Бабарыкам. Іх дапыталі па "справе Белгазпрамбанка" ў Дэпартаменце фінансавых расследаванняў, не дапускаючы адвакатаў. Увечары стала вядома, што абодва Бабарыкі - у СІЗА КДБ.

**19 чэрвеня.** Штаб Віктара Бабарыкі паведаміў, што ў падтрымку затрыманага ўчора палітыка сабраныя 434 985 подпісаў. Віктар Бабарыка патрабуе правесці рэферэндум з мэтай вярнуць Канстытуцыю 1994 года.

Расія і Беларусь падпісалі пагадненне аб узаемным прызнанні віз.

**Увечары 19 чэрвеня** ў шматякіх гарадах Беларусі прайшлі акцыі салідарнасці з арыштаванымі.

**20 чэрвеня** людзі стыхійна выходзяць на вуліцы беларускіх гарадоў. Міліцыя і "людзі ў цывільным" затрымалі незадаволеных. "У дачыненні да грамадзян складзены каля 270 пратаколаў аб адміністрацыйных правапарушэннях, у асноўным за парушэнне парадку арганізацыі або правядзення масавых мерапрыемстваў, а таксама непадпарадкаванне законнаму патрабаванню службовай асобы пры выкананні ім службовых паўнамоцтваў", - гаворыцца ў паведамленні прэс-службы МУС.

**21 чэрвеня.** Петыцыю за вызваленне В. Бабарыкі падпісалі больш за 200 тысяч чалавек.

**22 чэрвеня.** У панядзелак у розных гарадах Беларусі распачаліся суды над затрыманымі падчас стыхійных акцый "Ланцугі салідарнасці", што адбыліся 19 -21 чэрвеня.

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка падпісаў Указ № 227, якім кампаніі "ГардСервіс" дадзена права аказваць ахоўныя паслугі. Дакумент прыняты "ў мэтах пашырэння сферы паслуг пры ажыццяўленні ахоўнай дзейнасці". Такім чынам колькасць ахоўнікаў павялічваецца.

**22 чэрвеня** падчас наведвання Брэста Аляксандр Лукашэнка сустрэўся з прадстаўнікамі мясцовай апазіцыі, перш за ўсё з працаўнікамі пабудовы акумулятарнага завода каля горада і паабяцаў ім правесці рэферэндум у горадзе па гэтым прадпрыемстве.

Стала вядома, што Астравецкая АЭС пабудавана за 6 млрд. долараў.

**22 і 23 чэрвеня** адбылося больш за 100 судовых пасяджэнняў з удзелам затрыманых.З іх 8 чалавек засудзілі разам на 90 сутак арышту. На 78 беларусаў былі выпісаны штрафныя санкцыі на агульную суму 50 500 рублёў.

**24 чэрвеня.** У Маскве адбыўся Парад Перамогі ў гонар 75 гадоў з Дня Перамогі над Германіяй. На парадзе быў А. Лукашэнка з трыма сынамі.

Ва ўчастковыя выбарчыя камісіі ў Беларусі трапіла 8 чалавек з 2033 валанцёраў.

**25 чэрвеня.** У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі адбылася прэзентацыя першага выдання па-беларуску гістарычнага дакумента "Дагаворы і пастановы правоў і свабодаў вайскоўцаў", вядомага як Канстытуцыя гетмана Украіны Піліпа Орліка. Імпрэза была прымеркавана да 24-й гадавіны прыняцця Вярхоўнай Радай сучаснай Канстытуцыі Украіны. Беларускамоўнае выданне Канстытуцыі Піліпа Орліка было падрыхтавана з ініцыятывы Мінскага грамадскага таварыства ўкраінцаў у Беларусі "Заповіт" і выдадзена пры садзейнічанні амбасады Украіны ў Беларусі.

**26 чэрвеня.** Стала вядома, што затрыманы многія блогеры (Сяргей Ціханоўскі, Сяргей Пятрухін, Уладзімір Цыгановіч, Уладзімір Няронскі, Аляксандр Кабанаў, Ігар Лосік). Супроць некаторых з іх заведзены крымінальныя справы. Большасць арыштаваных блогераў ужо прызнаныя палітвязнямі.

**27 чэрвеня.** Кіраўнік дзяржавы А. Лукашэнка прысутнічаў на Рэспубліканскім бале выпускнікоў ВНУ.

**28 чэрвеня.** Баранавіцкія актывісты адзначылі 360-ю гадавіну перамогі Рэчы Паспалітай над Маскоўскай дзяржавай пад Палонкай.

**30 чэрвеня.** На гэты дзень у краіне зарэгістраваны 62118 чалавек хворых на каронавірус. Ачунялі і выпісаны 46 054 пацыенты, у якіх раней была пацверджана каронавірусная інфекцыя. Спецыялісты правялі 1 мільён 785 тэстаў.

*(Працяг у наступным нумары.)*

№ 6 (1521) 10 ЛЮТАГА 2021 г. Наша слова

*Да 160-годдзя акадэміка Яўхіма Карскага*

***Алесь Крой,***
*старшыня Гарадзенскай гарадской рады ТБМ і сябар БГТ*

# Галоўны помнік яго жыцця - вялікая шматтомная праца "Беларусы"...

*(Працяг. Пачатак у папяр. нумары.)*

**7. Каханне і шлюб Яўхіма Карскага і Сафіі Сцепуржынскай.**

Неяк Яўхім Карскі ў царкве Наваградскага павета звярнуў увагу на маладую гімназістку, потым на танцавальнай вечарыне яны сустрэліся ізноў, тады і вызначыўся іх лёс. Але вяселле вырашылі згуляць пасля заканчэння гімназісткай навучальнай установы. Яшчэ да вяселля Соф'і Мікалаеўне ў рукі патрапіў ліст вядома рускага славіста Рамана Фёдаравіча Брандта да Я.Ф. Карскага, у якім той адгаворваў Яўхіма Фёдаравіча ад шлюбу, баючыся, што ў выніку гэтага кроку ён загіне для навукі. "Прачытваючы гэты ліст, - піша Сафія Мікалаеўна, - я вырашыла, што перашкодай я ніколі яму не буду." Яна стрымала свае слова.

Сафія Мікалаеўна нарадзілася 13 ліпеня 1867 г. Была ахрышчана 6 жніўня 1867 года згодна выпіскі з метрычнай кнігі Цырынскай царквы. Розніца маладых па ўзросце cладала амаль 7 гадоў. Яе бацька, святар Цырынскай царквы, Наваградскага павета Мікалай Фадзеевіч Сцепуржынскі, а маці - Юлія Антонаўна.

Святар Мікалай Сцепуржынскі зрабіў у сваім прыходзе больш за ўсіх царкоўна-прыхадскіх школ - 10. За гэта ў 1886 годзе атрымаў падзяку ад Обер-Пракурора Святейшага Сінода і абраз Уладзіміраўскай Божай Маці для самай беднай школы, якую ён адчыніў у вёсцы Застадолле.

Вяселле Карскіх адбылося 12 ліпеня 1887 адразу пасля таго, як Сафія Мікалаеўна скончыла гімназію. Пасля вяселля муж і жонка жылі ў Вільні, дзе Яўхім Фёдаравіч працаваў настаўнікам у 2 гімназіі. Спачатку Карскія шмат часу праводзілі разам, гулялі па горадзе, выходзілі вячэраць у рэстаран, хадзілі ў тэатр, у госці, па суботах прыходзілі знаёмыя на вячэру. Выкладанне і навуковая дзейнасць забірала ў Яўхіма Фёдаравіча ўсё больш часу. Хутка на навуковыя працы Я.Ф. Карскага звярнула ўвагу Акадэмія навук. Потым быў "Варшаўскі перыяд" і "Петраградскі". У Яўхіма і Сафіі Карскіх былі два сыны - старэйшы Яўген і малодшы Сяргей і дачка Наталля. Яўген нарадзіўся ў Вільні, Сяргей і Наталля - у Варшаве. Дачка Наталля вучылася маляванню ў Петраградзе з 4 (1916 г.) па 7 клас у Школе братоў Рэрыхаў. Часта Карскі з Варшавы прыязджаў з сям'ёй адпачываць і папрацаваць над працай "Беларусы" на Нёман каля Гародні на дачы маёнтка Мігова і фальварка Панямонь (праз Нёман).



*Фота 20. Праўнук акадэміка Аляксандр Карскі ў музеі Яўхіма Карскага з юнымі экскурсаводамі і адміністрацыяй гімназіі*

**8. Маёнтак Мігова. Фальварак Панямонь.**

За 18 кіламетраў ад Гародні. Сюды з Гародні на параходзе з сям'ёй любіў прыязджаць на адпачынак і вывучаць мясцовыя гаворкі Яўхім Карскі. Дачы маёнтка Мігова знаходзіліся сярод лесу на правым беразе Нёмана, а фальварак Панямонь з дачамі на левым беразе Нёмана - насупраць.

Паміж імі існавала паромная пераправа ў сярэдзіне 19 стагоддзя. У Панямонь з Гародні можна было 3 разы на тыдзень дабірацца на параходзе. Некаторыя даследчыкі блытаюць гэты фальварак з маёнткам Панямонь каля самай Гародні на правым беразе, тым больш, што ў абодвух Панямонях адпачывалі Э. Ажэшка, Я. Карловіч. Я. Карскі адпачываў і працаваў у фальварку Панямонь насупраць Мігова, ці ў Мігова на дачах. Пра правабярэжную Панямонь каля самой Гародні ў "геаграфічных кропках" ад праўнука Аляксандра Карскага, дзе бываў акадэмік, інфармацыі няма. З перапіскі акадэміка сёння мы ведаем, што з Мігова ці Панямоні ішла аплата за вучобу за сыноў Я. Карскага (старэйшы сын акадэміка Яўген загіне у I Сусветную, малодшы загіне ў II Святовую).



*Фота21. Нёман і Нёманскае вадасховішча. Панямонь - Мігова. Фота Кроя А.*

Адсюль, з Мігова, у час летняга адпачынку Я. Карскім быў адпраўлены ліст 21.06.1909 г. рэдактару "Нашай Нівы" Аляксандру Уласаву. У СПбФ АРАН.Ф.292.-1-62,ст.4 захоўваецца фотапартрэт жонкі Карскага Сафіі Мікалаеўны, якую здымаў у Панямоні вядомы філолаг, прафесар Варшаўскага ўніверсітэта Оскар Фёдаравіч Базінэр (1857-1909) да 1909 года. Там ёсць здымкі і з Мігова. З Мігова ішло ліставанне акадэміка з навукоўцамі і сябрамі.

На здымку знізу сям'я Карскіх з трыма дзецьмі і сядзіць нейкая жанчына, можа, Э. Ажэшка, каля яе малыя дзеці, здаецца, нехта сядзіць у яе на руках. Пакуль іншай інфармацыі пра кантакты акадэміка і пісьменніцы не знойдзена. Але Я. Карскі з Я. Карловічам вялі перапіску і маглі яны ўсе разам ці паасобку сустракацца ў Гародні, Панямоні. Стваральнік першага музея Яўхіма Карскага Апанас Цыхун дапускаў кантакты Э. Ажэшкі і Я. Карскага. Але пакуль дакладных фотадакументальных пацверджанняў не знойдзена. У час правядзення даследавання беларускай мовы ў 1985-1915 гг. у ходзе палявых экпедыцый па беларускіх губернях Я.Ф. Карскі неаднаразова наведваў в. Мігова. Асаблівасці вуснай гаворкі жыхароў в. Мігова сталі для навукоўца выразным прыкладам адметнасцяў беларускай мовы ў ваколіцах г. Гародні, на што неаднаразова даследчык згадваў у навуковых працах.

Упершыню Мігова ўзгадваецца ў 1558 г. Гэта вёска адносілася да Саволеўскага (Саволішкаўскага) войтаўства Каралеўскага двара Котра Гарадзенскай эканоміі Троцкага ваяводства ВКЛ, 15 валокаў зямлі. Гэты двор разам з 10 іншымі дварамі забяспечваў харчаваннем Каралеўскі двор у Гародні, што належаў Вялікаму князю літоўскаму. У 1690 годзе Мігова і Коматава - у валоданні Зміцера Віцькевіча. У 1783 Мігова ўваходзіла ў склад Катранскага ключа Гарадзенскай эканоміі. У 1789 г. фальварак Гарадзенскай эканоміі. Пасля падзелу Рэчы Паспалітай Мігова ўваходзіла ў Гарадзенскі павет Літоўскай губерні. У архівах Вільні знойдзены апошнія гаспадары фальварка Мігова ў ВКЛ і РП:

*“У год 1795, м<еся>ца чэрвеня 20-га/ліпеня 1-га дня ў журнале Найвышэйшага Літ <оўска>га Ураду ў Дэпартаменце эканом. запісана пад № 221 Эканамічны Дэпартамент, маючы перад сабою прадстаўлены Прывілей на пажыццёвае валоданне фальварка эканамічнага Мігова імць пані Фрэйліховай (Freylichowey) ад **** князя імці да zeyscia ЯКМ-ці бясплатна перададзены (wypuszczony) і дзеючы, забабязвае **** Пана каб і імць пані Фрэйліхову ў спакойным валоданні фальваркам Мігова пакінуў - да новых загадаў, якія Эканамічны Дэпартамент ў гэтай справе выдасць”.*

*“У Найвыдатнейшы*
*Эканамічны Дэпартамент*
*пры Найвышэй-шым*
*Урадзе Літоўскім.*

*Рапарт.*

*Паводле дадзенага мне указу з Найвыдатнейшага Эканамічнага Дэпартамента фальварак Мігова з валодання **** палкоў-нікавай Фрэйліховай пераняты ў скарб з апісаннем надворных пабудоў in fundu et extra fudum двара праз **** пані палкоў-нікаву Фрэйліхову разам з ****мужам і пасля яго смерці нанова пабудаванымі і старымі адрамантаванымі. (Дадзена ў Гродне 1796 году месяца лютага 11/студзеня 31 дня. (подпіс.)”*

Пасля падзелу земляў РП паміж трыма дзяржавамі фальварак Мігова з вёскамі Мігова, Александрова, Пескі, Віцькі быў падараваны Кацярынай II калежскаму асэсару Івану Савінскаму, які ён заклаў у банку, а пазней яго сын Мацвей Савінскі дамовіўся аб продажы яго ў Санкт-Пецярбургу з Фрэдарыкам Вільгельмам Цукербекерам. Пасля продажу ў Сакт-Пецербургу Мацвеем Савінскім фальварка Мігова з вёскамі Фрэдарыку Вільгельму Цукербекеру ў рэвізскіх казках пазначана прыналежнасць фальварка і земляў памешчыку Мекленбург-Шверынскага двара надворнаму дарадцу Фёдару Вільгельму Фаміну сыну Цукербекера фон Бухлена, які прасіў вызваліць яго ўладанні ад падаткаў пасля вайны 1812 года. У 1817 г. маёнтак Мігова набыў тутэйшы Іван Абуховіч і пазней падзяліў яго паміж сынам Аляксандрам і дачкой Соф’яй, па мужу Гласка (Гласко). Апошняй дасталіся вёскі Пескі і Віцькі па левым беразе Нёмана. Аляксандр Іванавіч Абуховіч, былы Гарадзенскі павятовы суддзя, атрымаў вёскі Мігова і Александрова з правага боку Нёмана. Пасля падзей 1863-1864 гг. і да канца недаказанага ўдзелу ў гэтых падзеях тутэйшых Абуховічаў маёнтак быў прададзены Кацярыне Брасэ (Бросса), на падставе Палажэння Заходняга Камітэта і дадатковых правіл Расейскай імперыі зацверджаных 5 сакавіка 1864 года по "водворению русских земледельцев". Гарадзенскім губернатарам выдана пасведчанне ад 12 лістапада 1867 года за № 57 па выкупе маёнтка Губінка Кацярынай Брасэ, а раней, на падставе пасведчання пра рускае паходжанне, быў выкуплены маёнтак Мігова "по купчей крепосці" 25 верасня 1867 года з ільготамі.

Адкуль назва Мігова. Мінімум дзве назвы вёскі Мігова ёсць на Поўначы Польшчы. Польска-кашубскія даследчыкі лічаць, што верагодна адбылася паступовая трансфармацыя назвы "Emugow", "Muggau", "Mygowo" у "Migowo" вядомая з 1379 г., сёння вёска Мігова частка Гданьска. Назвы падаюцца нямецкага і кашубскага паходжання. Кашубскае "Mega"-"Камар". Мігова-"Камарова"? Ёсць версія паходжання назвы ад гідроніма-назвы невялікага ручая, зафіксаванага на картах пачатку 19 стагоддзя. Назва ручая і паселішча каля яго "Muggau" магло з'явіцца ў часы паходаў і стаянак крыжаносцаў і князёў Комата, Гедыміна, Вітаўта і потым транфармавацца ў Мігова, як у Польшчы. У кароткім тапанімістычным слоўніку Беларусі Вадзіма Жучкевіча знаходзім блізкае слова Мігоўшчына, паселішча ў Крупскім раёне, назва ад прозвішча Мігун, таму ўмоўна магчыма разглядаць і варыянт паходжання назвы ад першага пасяленца з прозвішчам Міговіч, які зафіксаваны ў спісах жыхароў вёскі Мігова 16 стагоддзя у "Гарадзенскай эканоміі" .

Да пабудовы Нёманскага вадасховішча захоўвалася цудоўна абсталяваная мігоўская крыніца на беразе Нёмана, з якой бралі ваду і гаспадары былога маёнтка, мігоўцы і дачнікі. Магчыма і Яўхім Карскі, які працаваў і адпачываў са сваёй сям'ёй на землях маёнтка Мігова, частаваўся смачнай мігоўскай вадою.

*(Працяг у наст. нумары.)*

# Аўтар партрэтаў нацыянальных герояў адзначыў юбілей



31 студзеня адзначыў 75-годдзе вядомы мастак Мікола Купава. Юбілею знакамітага графіка прысвечана кніжная выстава ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. На ёй сабраны перыядычныя выданні і кнігі, дзе можна пазнаёміцца з дзейнасцю графіка і грамадскага дзеяча, прадстаўлены ілюстрацыі мастака да розных выданняў, яго цыкл прац, прысвечаных Якубу Коласу, паштоўкі з выявамі гарадоў, ілюстрацыі казак.

М. Купава стварыў цэлы шэраг партрэтаў знакавых гістарычных асобаў: гетмана Канстанціна Астрожскага, вялікага князя Альгерда, Кастуся Каліноўскага, аздобіў творы Цёткі, Каруся Каганца, Вінцэся Каратынскага і іншых.

Мікола Купава нарадзіўся ў Оршы 31 студзеня 1946 года. Мастак плённа працуе на працягу 50 гадоў у галіне кніжнай і станковай графікі, акварэлі, экслібрыса, стварае мастацкія вобразы на аснове літаратурных твораў, выканаў аздабленне звыш 30-ці кніжак і альбомаў. Ён з'яўляецца сябрам Беларускага саюза мастакоў з 1978 года і сябрам суполкі "Пагоня", даследуе архітэктуру, у прыватнасці, аршанскае абарончае сакральнае дойлідства. М. Купава браў удзел у больш як 90 нацыянальных, персанальных і міжнародных выставах, арганізоўваў шматлікія плянэры і імпрэзы.

Спадар Мікола быў узнагароджаны дыпломам і медалём Ф. Скарыны за ілюстрацыі да энцыклапедычнага выдання "Ф. Скарына і яго час" (1988), стаў пераможцам конкурсу "Вечныя гарады". Мастак вывучаў партрэт першадрукара і пакінуў свае разважанні пра яго на старонках часопіса "Наша вера" (№ 3, 2017 г).

Творы мастака захоўваюцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, дзяржаўных літаратурных музеях Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа і іншых установах, а таксама ў прыватных калекцыях. Пра месца М. Купавы ў мастацкім працэсе Беларусі напісаў у кнізе "Сучасная беларуская графіка" Віктар Шматаў.

Мікалай Мікалаевіч памятае, як у 1990 годзе ў Полацку Уладыка Філарэт урачыста асвяціў бел-чырвона-белы сцяг, які праз год стаў дзяржаўным. У 1991 годзе Мікола Купава стварыў эталон дзяржаўнага сцяга Рэспублікі Беларусь.







- За нашым сцягам - стагоддзі гісторыі, - падкрэслівае мастак. - Упершыню бел-чырвона-белы сцяг з'явіўся на гравюры 1444 года. На той гравюры - бітва з туркамі пад Варнай, у якой таксама ўдзельнічалі войскі ВКЛ. Бел-чырвона-белыя сцягі паказаныя на славутай карціне "Бітва пад Воршай 1514 года."

- Спадар Мікола прысвяціў свае творчае жыццё сцвярджэнню нашых нацыянальных святыняў, а значыць - замацаванню нас у вечнасці, - адзначаў Рыгор Сітніца на маштабнай выставе ў Палацы мастацтваў, прысвечанай 50-годдзю творчай дзейнасці Міколы Купавы.

У 2019 годзе Міколу Купаву ўзнагародзілі памятным медалём да 100-годдзя БНР. У 2020 годзе мастак перахварэў на каронавірус, ляжаў у шпіталі, акрыяў ад хваробы і працягвае працаваць.

*Эла Дзвінская,*
*фота аўтара.*

# Блок паштовых марак “Народныя пісьменнікі Беларусі”




“Белпошта” выпусціла блок паштовых марак № 148 (маркі № 1402-1404) “народныя пісьменнікі Беларусі”. Нумар па каталогу: 10001402. Маркі прысвечаны юбілеям класікаў беларускай літаратуры: Кандрата Крапівы (125 гадоў з дня нараджэння), Івана Мележа (100 гадоў з дня нараджэння), Івана Шамякіна (100 гадоў з дня нараджэння). Маркі ўведзены ў аварот 8 лютага 2021 г., у дзень 100-годдзя Івана Мележа. Месца гашэння: Менск-паштамт.

*Наш кар.*

Беларуская мова - ТБМ - наша будучыня

### *Ахвяраванні на ТБМ*

1. Асіповіцкая арганізацыя ТБМ - 30 р.
2. Эксперты па перакладзе - 135 р., г. Менск заканадаўчых актаў на беларускую мову
3. Птушка С.І. - 15 р., в. Хільчыцы
4. Бубен Кастусь - 30 р., г. Менск
5. Шкірманкоў Фелікс - 20 р., г. Слаўгарад
6. Галаўнёў Мікола - 160 р., г. Менск
7. Юфераў Васіль - 10 р., г. Менск
8. Васільеў - 25 р., г. Менск
9. Панасюк А.П. - 80 р., г. Менск
10. Кукавенка І.І. - 25 р., г. Менск
11. Фурс Антон - 20 р., г. Паставы
12. Карповіч Сямён - 20 р., г. Менск
13. Камінская А. - 30 р., г. Менск
14. Шкут Яўген - 4 р., г. Менск
15. Крыўко - 10 р., г. Наваполацк
16. Чыгір Яўген - 10 р., г. Менск
17. Сямігава - 30 р., г. Менск
18. Нароўская - 15 р., г. Менск
19. Копыл Ілля - 60 р., г. Менск
20. Вяргей Валянціна - 80 р., г. Менск
21. Бамбіза Мікола - 100 р., г. Менск
22. Стадуб Іван - 10 р., г. Менск
23. Парфёненка В. - 34 р., г. Гародня
24. Баршчэўскі Лявон - 5 р., г. Менск
25. Дзегцярова К. - 10 р., г. Менск
26. Ралько Леанід - 30 р., г. Баранавічы
27. Жыдаль Дзяніс - 150 р.
28. Гарановіч Анатоль - 50 р., г. Менск
29. Капылоў Ігар - 10 р., г. Менск
30. Кандраценя - 5 р., г. Менск
31. Баранаў - 3 р, г. Менск
32. Запрудскі Сяргей - 50 р.
33. Лоцманава В. - 50 р., г. Менск
34. Алена - 200 р., г. Менск
35. Дубараў Сяргей - 50 р., г. Менск
36. Кляцкова Ірына - 10 р. г. Менск
37. Рак П.Ф. - 15 р., г. Менск
38. Дзік Ірына - 10 р.
39. Івашкоў Сяргей - 5 р., г. Менск

Дзейнасць ГА “ТБМ імя Францішка Скарыны” па наданні роднай мове рэальнага статусу дзяржаўнай вымагае вялікіх выдаткаў. Падтрымаць ТБМ – справа гонару кожнага грамадзяніна краіны.

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: вул. Румянцава, 13, г. Мінск, 220034, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ № BY84BLBB30150100129705001001 у Аддзяленні № 539 ААТ “Белінвестбанка” IBAN - BLBBBY2X (УНП 100129705) праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк.

**Як аплаціць цераз МТБ - банк?**

МТБ-банк => Аплата паслуг => Іншыя аплаты => Вольны плацёж => Працягнуць => Выбраць картку МТБ для аплаты => Увесці прозвішча => Працягнуць => БІК банка атрымальніка: BLBBBY2X => Працягнуць => Рахунак: BY84BLBB30150100129705001001 => ПІ Іпб/Найменне атрымальніка: ГА “Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны” => УНП атрымальніка: 100129705 => Прызначэнне плацяжу: Складкі ці Ахвяраванні => Працягнуць => Працягнуць => З карты - выбіраем сваю карту => Набіраем суму => Аплата.

**Аплата праз асабісты кабінет**

Плацяжы => Вольны плацёж.

Атрымальнік: ГА “Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны”.

Рахунак атрымальніка: BY84BLBB30150100129705001001.

BIC банка -атрымальніка: BLBBBY2X.

УНП: 100129705.

ПІпб адпраўніцеля: ...

Адрас: ...

Код плацяжу - прапускаем.

Прызначэнне плацяжу: Складкі (за перыяд студзень-сакавік 2021 г.).

За перыяд: Выбіраем месяц, у якім робім пералічэнні.

Сума: 20,00.

Далей: Аплаціць.



№ 6 (1521) 10 ЛЮТАГА 2021 г. Наша слова

# Па Каліфорніі: беларус пра "Залаты штат" 130 гадоў таму

Прапануем другую, заключную частку раздзела V з рэпартажу "Па Каліфорніі" (першую гл. у № 4 "Нашага слова") Мікалая Руселя (пры нараджэнні Судзілоўскага).

Прыгоды Карла Сіверса і доктара Руселя працягваюцца. Часам Русель у сваім апісанні надоўга адыходзіць ад уласна падзей падарожжа і жыцця ў лесе. Цікавыя не толькі прыгоды ў падарожжы, але і яго даведачныя экскурсы, што робіцца з энцыклапедызмам, які прымушае прыгадаць механічную памяць Майкрафта Холмса. Так, гэта не зусім жарт, жыццё доктара ў Каліфорніі і далей у розных краінах сапраўды трохі нагадвае нам прыгоды Шэрлака Холмса і доктара Ватсана.

У рэпартажы змяняюцца рэальныя апісанні жыцця ў Каліфорніі на прыкладзе канкрэтных убачаных рэчаў і агульныя разважанні, даведкі з друку або рэкламы, гумарыстычныя, часцей з сімпатый напісаныя партрэты людзей, крытычныя - часам саркастычныя - не вельмі прывабных іх тыпаў. Пералік "гандлёва-прамысловых камбінацый" (трэстаў), які Русель зрабіў для "кур'ёзу", не без цікавасці і для нас - і нам было цікава, як іх назвы прагучаць па-беларуску. У гэтай частцы раздзела V ёсць і пра тое, як эканамічныя канкурэнты спрабавалі знішчыць адзін аднаго.

Канкурэнцыя, канфлікты. Доктар Русель не толькі выклікаў на дуэль свайго частковага брата па крыві консула ў Сан-Францыска Уладзіміра Арцімовіча (абышлося), але і фігураваў у спробах знішчыць - нібыта ўзаемна - адзін аднаго праз арганізацыю замаху на жыццё, у выніку канфлікту, "канкурэнцыі" паміж членамі праваслаўнай грамады. Русель не быў рэлігійным чалавекам, але ў брашуры "Жыцце праасвяшчэннага Уладзіміра... " ён піша, магчыма, з мэтай выклікаць сімпатыі да сваёй пазіцыі і вернікаў, што рэлігійныя погляды ў яго былі: "І якія б ні былі далёкія мае рэлігійныя погляды ад абраднага праваслаўя, але ў якасці рускага і я трапіў ў гэты гуртох і гэтую царкву".

*Алесь Сімакоў,*
*даследчык беларускай дыяспары*
*на Аляcцы і ў Каліфорніі.*

**Мікалай Русель**

**Па Каліфорніі - V (заканчэнне)**
***Пераклад з рускай мовы***
***Алеся Сімакова***

Усю раніцу наступнага дня мой спадарожнік і я прысвяцілі агляду горада і вызваленню нашага багажу з кіпцюроў Wells & Fargo - кампаніі экспрэса. Нашы рускія ўяўленні пра "Экспрэс" даволі цмяныя, таму што не толькі ў Расіі, але і ў блізкіх нашых суседзяў мы не знаходзім нічога падобнага, а між тым у Амерыцы ён адыгрывае занадта прыкметную сацыяльную ролю, каб яго можна было б абысці маўчаннем. Перш за ўсё экспрэсам называецца ламавік. Такіх экспрэсаў, вядома, тысячы ў кожным горадзе. Часам гэта беднякі, што займаюцца перавозкай грузаў і багажу на свой асабісты страх. Часцей гэта невялікія прадпрымальнікі або кампаніі, якія трымаюць больш ці менш калёс і коней. Далей гэтага ў Расіі арганізацыя гэтага промыслу не пайшла, калі не лічыць так зв. транспартных кантор. Іншая справа ў Амерыцы. Тут пад іменем "кампаній экспрэса" арганізаваліся спецыяльныя прадпрыемствы, якія злучылі ў сваіх руках транспартную, банкавую і паштовую справу ў памерах, даступных для дзяржавы. Пры параўнальна малым развіцці прынцыпу дзяржаўнасці ўвогуле і дзяржаўнай гаспадаркі ў асаблівасці, нішто не перашкодзіла гэтым кампаніям манапалізаваць такія важныя эканамічныя артыкулы, як перамяшчэнне пасылак, багажу, паклажы і ўсякіх тавараў, а часткова пісьмаў і грошай. Яны здолелі зрабіцца настолькі неабходнымі, што з імі даводзіцца лічыцца, хочаш не хочаш, на кожным кроку. Трэба вам перавезці ваш багаж з аднаго месца ў іншае ў Расіі, Еўропе, вы бераце рамізніка, а ў Амерыцы даводзіцца тэлефанаваць экспрэсу, таму што рамізнік занадта дарагі. У Сан-Францыска ён бярэ $ 2 1/2 (5 рублёў) у канец і $ 5 (10 рублёў) у гадзіну. Рамізнік наймаецца толькі на пахаванні, вяселлі і ў падобных экстранных выпадках. Вядома, можна выйсці на вуліцу і пашукаць ламавіка, які зробіць тую ж паслугу за $ 1 (2 рублі), але гэта таксама дорага, калі багажу мала, і, зразумела, бо яму прыходзіцца везці толькі вашы рэчы, і менш узяць ён не можа. Ды акрамя таго, гэта клапотна, значна прасцей і лягчэй тэлефанаваць кампаніі экспрэса, якая наладзіць вам усё гэта па 25 с (50 к) - 50 с (1 рубель) за штуку багажу: гледзячы па велічыні. Трэба вам адправіць вашы рэчы ў іншы горад не толькі ў Штатах, але і за мяжу, зноў жа прасцей за ўсё тэлефанаваць экспрэсу, каб не цягнуцца за рамізнікам, а з ім на вакзал або на прыстань, дзе прыйдзецца доўга чакаць і страціць, магчыма, цэлы дзень. Ды, прытым, у чыгуначных кампаній свае пагадненні з кампаніяй экспрэса, заснаваныя на ўзаемных саступках і паслугах. Калі, напрыклад, здарыцца, што вы прывезяце для здачы ў багаж або таварам скрыню з правізіяй, то чыгунка яе не прыме, а накіруе вас да той жа кампаніі экспрэса, якая прыме ўсё. Трэба вам адправіць пасылку ў горад або ў Штатах, або за граніцу, калі вы з'явіцеся на пошту, то яна адмовіцца прыняць яе ў 3-х выпадках з чатырох, таму што або вага, або памеры пасылкі, або яе ўпакоўкі акажуцца неадпаведнымі паштоваму рэгламенту. Запрасіце экспрэса, ён прыйдзе да вас на дом і прыме ўсё, што хочаце, куды хочаце. Калі трэба адправіць важны ліст, адносна якога вы баіцеся, каб змесціва яго як-небудзь не зрабілася вядомым цікаўнаму паштоваму чыноўніку або вашаму гандлёваму канкурэнту, зноў жа трэба яго ўручыць экспрэсу, які напэўна яго даставіць і захавае ў таямніцы ваш сакрэт. Тое ж з грашыма, яны будуць уручаны хутчэй, чым праз банк або па пошце, каму хочаце і дзе хочаце. І ўсё гэта без усякіх доўгіх і сумных фармальнасцей. Агент, які наведаў вас, выдасць вам распіску на кавалачку паперы, і больш вам няма пра што клапаціцца. Усё робіцца неймаверна проста, хутка і дакладна. Як відаць, залатая ўстанова, якой нельга не пазайздросціць. Насамрэч гэта не так. У той час, калі было шмат кампаній, што канкуруюць, мабыць, яно так і было, але цяпер гэта справа, як і ўсякая іншая прыбытковая справа, практычна апынулася ў руках адной вялізнай кампаніі, якая праўдай і няпраўдай забіла ўсіх сваіх канкурэнтаў і карыстаецца сваёй манаполіяй самым бессаромных чынам. Шматгадовая спрактыкаванасць, падбор вопытных і выпрабаваных службоўцаў і, галоўнае, грандыёзны ўкладзены ў прадпрыемства капітал робяць новую канкурэнцыю практычна немагчымай. Ды і які толк у канкурэнцыі! У самы кароткі прамежак часу, калі б знайшліся людзі, якія згадзіліся выдаткаваць на паралельнае прадпрыемства новыя мільёны, старая кампанія або пабіла б іх зніжэннем цэн, сваімі трывалымі, усталяванымі сувязямі з чыгункамі, параходамі, сваёй вопытнасцю і г. д. або, калі б гэта аказалася немагчымым, ела б іх або праглынула ў адной яшчэ больш шырокай па сваіх памерах справе, утвараўшы так званую "Trust", г. зн. гандлёва-прамысловую камбінацыю. Бо амаль кожная галіна вытворчасці або гандлю ў Штатах ужо прыняла гэтую форму і практычна складае манаполію. Высокі пратэкцыяніцкі тарыф, які робіць немагчымым замежную канкурэнцыю, даў у гэтым кірунку асабліва моцны штуршок. Апрача галін вытворчасці, у якіх Штаты бяспечныя ад заграгнічнай канкурэнцыі па глебавых, кліматычных і іншых натуральных мясцовых умовах, налічваюць каля 100 галін вытворчасці, у якіх гэтыя Trusts узніклі выключна дзякуючы штучнаму пратэкцыянізму тарыфу. Для кур'ёзу яго спіс: каменнавугальная камбінацыя, камбінацыя вострых жалезных інструментаў, дроту для агароджы, бісквітная, вінтавая і гаечная, кіпяцільнікавая, шавецка-чаравічная, камбінацыя вытворчасці буракcу, мётлаў, шчотак, гузікаў, электрычных свечак, патронаў, рыцынавага алею, цэлулоіду, папірос, згушчанага малака, медна-зліткавая, медна-ліставая, вяровачная, пасудная, папяровa-прадзільная, бавоўнянага алею, папяровых нітак, электрычных апаратаў, канвертная, шкляная, віла́ў і рыдлёвак, фруктовых кансерваў, гальванізаванага жалеза, пальчатачная, землеробчых барон, касілак, дзвярных завесаў, зацвярдзелых валокнаў, свінцовая, падэшвенная, вапнавая, ільнянога алею, літаграфная, лакаматываў, мармуровая, запалкавая, саф'янавая, аўсянай мукі, цыратная, папяровых мяхоў, смаляная, люстравая, кішэнных нажоў, пораху, кансерваў, дрэвавай клятчаткі, рысавая, гумовая, грашовых мяхоў, саляная, пясчанікавая, санітарных тавараў, пясочнай паперы, рамавая, піл, школьных кніг, школьнай мэблі, сцёкавых труб, шроту, мясных шпілек, ліцейная, ручак для інструментаў, мыльная, апаратаў содавай вады, губак, крухмалу, стальная, рэйкавая, пячная, цынковачная, будаўнічай сталі, цукровая, варсавальных булавешак, ліставога волава, надмагільных камянёў, куфравая, металічных труб, друкарскага шрыфту, парасонавая, паравых печаў, шпалерная, гадзіннікавая, колавая, пуг і бізуноў, аконнага шкла, дроту, драўляных вінтоў, шарсцяных капелюшоў, абгортачнай паперы, жоўтага ялею.

І гэта толькі сотня прыкладаў, прыведзеных членам кангрэса Дэвіт-Уорнерам з процьмы камбінацый, якія ўзніклі з прычыны пратэкцыяніцкага тарыфу і класавага заканадаўства. Па сутнасці, можна сказаць, што літаральна ўсякая вытворчасць у Штатах ужо зрабілася прадметам манаполіі, дзякуючы ці то тарыфу, ці то натуральным умовам. Мэта ўсіх гэтых камбінацый траякая: 1) скарачэнне вытворчасці. Большасці заводаў камбінацыя проста выплачвае ўсю суму іх гадавога барышу з умовай, каб яны закрылі свае фабрыкі або скарацілі вытворчасць да пэўных памераў. 2) сцягнанне са спажыўцоў такіх цэн за тавары, якія яны толькі ў стане заплаціць (all the traffic can bear) і ўжо ні ў якім выпадку не менш памераў пратэкцыяніцкага тарыфу, г. зн. ад 25% да 200 і 300%. 3) зніжэнне заработнай платы.

Што тычыцца сродкаў да знішчэння канкурэнтаў і прымушэння іх уступіць у камбінацыю, то манапалісты ў гэтых адносінах не абмяжоўваюцца ні боскімі, ні чалавечымі законамі. Тут усё пускаецца ў ход, пачынаючы з усялякага роду камерцыйных, біржавых і фінансавых падвохаў з мэтай разарыць і знішчыць упартага праціўніка да падпалу і ўзрыву дынамітам яго фабрыкі. Яшчэ нядаўна на судзе разглядалася справа магутнай гарэлачнай камбінацыі, якая падкупіла людзей для спалення і ўзрыву аднаго ўпартага і незалежнага завода. Апошнія былі злоўлены з растворамі фосфару ў сярністым вугляродзе і пякельнымі дынамітнымі машынамі на месцы злачынства.

Што значаць гэтыя камбінацыі для спажыўца і вытворцы-рабочага лепш за ўсё паказаць наглядна. Возьмем для прыкладу каменнавугальную камбінацыю. У шостай афіцыйнай гадавой справаздачы ўрадавага агента ў галіне працы (Labor Commissioner) вашынгтонскаму ўраду ёсць шмат у вышэйшай ступені цікавых фактаў. Каменнавугальныя карпарацыі далі доступ гэтаму агенту да сваіх рахунковых кніг толькі пад умовай, што ў сваіх афіцыйных справаздачах пра гэтую вытворчасць ён не будзе называць асобных кампаній і капальняў, а будзе абазначаць іх лічбамі. Ён стрымаў слова і ў яго справаздачы значацца па нумарах 147 каменнавугальных прадпрыемстваў у Штатах і некалькі за мяжой. У выніку яго даследаванняў аказваецца, што з выплатай рабочым і адміністрацыі, з уключэннем рэнты, працэнтаў на капітал, страхаванне, псаванне машын і будынкаў, адным словам, з уключэннем усіх магчымых звязаных з вытворчасцю выдаткаў кошт адной тоны (200 англійскіх фунтаў) каменнага вугалю ў Злучаных Штатах роўны 92 цэнтам. Паводле справаздачы чыгунак, сярэдні кошт перавозкі і дастаўкі вугалю спажыўцу роўны 98 цэнтам, так што дастаўлены да дзвярэй спажыўца вугаль у сярэднім каштуе 1 долар 90 цэнтаў, між тым як сярэдняя цана, сапраўды заплачаная спажыўцом за тону, паводле той жа справаздачы, роўная 5 д. 50 ц., так што сярэдні барыш манапалістаў складае 3 д. 60 ц., г. зн. каля 190 %. Што тычыцца ўласна рабочай платы, то ў сярэднім для Штатаў яна раўняецца 60 цэнтам за тону. Капальні N 9 паводле справаздачы плацяць 95 цэнтаў (maximum зарабатная плата), а N 31 толькі 20 цэнтаў (minimum). У N 9 рабочы вымае ў сярэднім 13 тон ў тыдзень, што складае (пры ўмове сталай работы!) $12 с 35 у тыдзень. Працуе ён 1400 футаў пад зямлёй і з гэтай заработнай платы павінен яшчэ сам плаціць за сваё лямпавае масла, порах і кавалю за папраўку інструментаў. У N 31 рабочы вымае у сярэднім 60 тон у тыдзень, працуючы 9000 футаў пад паверхняў зямлі. Вугаль прапускаецца праз сіта і рабочыя нічога не атрымліваюць за дробны парашок, які праходзіць сіта. Што не перашкаджае капальням N 9 збываць гэты парашок на $19,000 у год, а N 31 на $1750. У капальнях N 40 рабочы можа вынясць толькі 11 тон у тыдзень. Гэта самая меншая колькасць прадукту, што выпрацоўваецца ў капальнях Штатаў адным чалавекам. Работа тут ідзе 2000 футаў пад паверхняй зямлі. Апошнія гады ўсёй колькасці вугалю ў гэтых капальнях было 28,000 тон і парашок быў прададзены за $ 6000. Гэтыя капальні плацяць рабочаму 75 цэнтаў за тону, што складае $ 8,25 ў тыдзень пры сталай рабоце. Рабочаму каштуе 11 цэнтаў у тыдзень папраўка інструментаў, 20 цэнтаў масла і 70 цэнтаў порах, што пакідае яму чыстага заробку $ 7,25 у тыдзень.

У сярэднім рабочыя маюць работу толькі 5 дзён у тыдзень, што зводзіць іх сапраўдную рабочую плату на $ 5. А паколькі за гэтыя $ 5 рабочы можа набыць пры дарагоўлі прадуктаў не больш чым у Англіі за 5 шылінгаў або ў Германіі за 5 марак, то чытачу зробіцца ясным, да чаго ўласна кажучы зводзіцца праславуты пратэкцыянізм працы (!), якім прыкрываюцца амерыканскія капіталісты. Не шкодзіць для параўнання заўважыць, што паводле той жа афіцыйнай справаздачы сярэдняя вартасць каменнавугальнай вытворчасці ў Злучаных Штатах - $ 0,92, у Канадзе - 1,4, у Англіі 1,15, а ўвогуле сярэдняя на ўсім еўрапейскім кантыненце - 0,72 за тону.

А між тым каменнавугальныя каралі яшчэ незадаволеныя і патрабуюць павышэння тарыфу на вугаль. Такім чынам, усе вытворчасці і промыслы ў Штатах складаюць манаполіі нямногіх капіталістаў, іх кампаній або камбінацый і свабоднаму грамадзяніну прыходзіцца цяжка расплачвацца і як вытворцу і як спажыўцу. Па кожнай галіне ёсць свой кароль, ад самавольства якога залежыць усё. Ёсць каралі цукровыя (Spreckles [Spreckels]), чыгуначныя Jay Gould, Stanford), газавыя, тэлеграфныя, сталеліцейныя (Carnegie) і інш., адным словам, сапраўдны феадальны парадак. Нашы рускія хлебапрамыслоўцы, цукразаводчыкі і нафтапрамыслоўцы, зрэшты, ужо далі рускаму грамадству некаторы ўрок у гэтых адносінах. Іх камбінацыі ўяўляюць у малых памерах тое, што ў Штатах ўчыняецца ў вялікіх.

Wells & Fargo - каралі экспрэса. Яны маюць канторы не толькі ва кожным колькі-небудзь значным паселішчы Штатаў, але і за мяжой, як дзве кроплі вады вялікая дзяржава. Не дай Бог трапіць ім ў рукі (а трапляць прыходзіцца воляй-няволяй ледзь не кожны дзень), абдзяруць як ліпку. Аднойчы мне здарылася пераслаць праз іх рукапісны сшытак у Еўропу. За перасылку я заплаціў $ 5 (10 рублёў). У дадзеным выпадку за скрыню з правізіяй (чыгунка не прымае ў багаж) кошт у некалькі долараў з нас ўзялі ў Placervill'і за правоз з Сан-Францыска $ 3.75, г. зн. каля 50 % ad valorem за параўнальна нязначную адлегласць. Атрымліваць з Еўропы, якія б там ні былі паштовыя пасылкі - гэта проста гора. Замежная пошта, даставіўшы ў New York, здае іх у мытню. У мытні ўся механіка так арганізавана, што атрымаць яе самому адрасату немагчыма. Трэба наняць спецыяльна мытнага фактара (broker), нават калі б адрасат быў сам у Нью-Ёрку. Калі ж ён жыве ў якім-небудзь іншым горадзе, то фактар знаходзіцца сам сабой і паведамляе вам, што вось, маўляў, ён для вас абладзіў справу з пасылкай і дадае свой рахунак, які далёка перавышае кошт самога прадмета. Але гэтага мала. Ён здае пасылку Well's Fargo, і тыя абдзіраюць вас яшчэ раз жорстка. У большасці выпадкаў, чым плаціць высокую мытную пошліну, рахунак фактара і экспрэса, значна больш разумна зусім адмовіцца ад вашай уласнасці, што я не раз і рабіў.



# Беларускі мовавед, адлучаны ад мовазнаўства сталінскім рэжымам

У менскім выдавецтве Зміцера Коласа свет пабачыла кніга "Янка Бялькевіч і яго "Краёвы слоўнік Усходняй Магілёўшчыны".

Кніга прысвечана аднаму з найвыдатнейшых беларускіх мовазнаўцаў Янку Бялькевічу (1883-1960), першаму дырэктару Мсціслаўскага белпедтэхнікума ў 1925-1927 гадах, аўтару "Краёвага слоўніка Усходняй Магілёўшчыны", беспадстаўна абвінавачанаму сталінкім рэжымам і пазбаўленаму волі ў 1930 годзе.

Кнігу пра Янку Бялькевіча падрыхтаваў краязнавец з Вілейшчыны Уладзімір Кажамяка. Гэта дзякуючы яму, на Беларусь зноў вярнулася забытае імя Янкі Бялькевіча. Складальнік кнігі напісаў да яе прадмову і апублікаваў свой вялікі артыкул "Наша радасць Янка Бялькевіч і яго "Краёвы слоўнік Усходняй Магілёўшчыны". У кнізе змешчаны таксама артыкулы пра Янку Бялькевіча і яго ўнікальны слоўнік Веранікі Курцовай, Міколы Улашчыка, Леаніда Леановіча, Іллі Шалухі, Любові Уласавай, Святланы Вярэм'евай, Тацціяны Новікавай і іншых аўтараў.

Пра беларускага лексікографа і лексіколага, аўтара вядомага "Краёвага слоўніка ўсходняй Магілёўшчыны" Янку Бялькевіча хораша неяк сказаў вершам Алесь Пісьмянкоў:

*Я зноў аб галоўным,*
*Аб кроўным,*
*Я зноў пра свае карані:*
*Гартаю*
*Бялькевічаў "Слоўнік",*
*Нібыта гасцюю*
*Ў радні.*

Але Янка Бялькевіч быў родам не з Магілёўшчыны, а са Слонімшчыны, з вёскі Варонічы, дзе ён з'явіўся на свет 6 сакавіка 1883 года ў сялянскай сям'і.

Вёска Варонічы ўпершыню ўпамінаецца ў XVI стагоддзі, як сяло, казённая ўласнасць у Слонімскім старостве Вялікага Княства Літоўскага. У 1869 годзе ў Варонічах працавала народнае вучылішча, у якім вучылася 10 хлопчыкаў. Працавала там і школа граматы.

Напачатку XX стагоддзя ў Варонічах налічвалася 556 жыхароў. А ужо ў 1921 годзе іх зменшылася да 248. А цяпер жыхароў у гэтай вёсцы можна палічыць на пальцах…

Нядаўна я пабываў у Варонічах, шукаючы вяскоўцаў з прозвішчам Бялькевіч. Там ужо няма людзей з такім прозвішчам. Але Бялькевічаў шмат жыве ў суседніх з Варонічамі вёсках Мяльканавічы, Сялявічы, Пасінічы і ў Слоніме. Аднак з тых апытаных вяскоўцаў, ніхто пра Янку Бялькевіча нічога не чуў і не ведае.

Дарэчы, перад пачаткам Першай сусветнай вайны сям'ю Бялькевічаў, як і тысячы беларускіх сем'яў, выгналі ў бежанства ў Расію. Бялькевічы апынуліся ў Саратаўскай вобласці. Там было цяжка, і ў 1919 годзе беларусы вярнуліся на Бацькаўшчыну. Янка Бялькевіч пачаў працаваць загадчыкам Вароніцкай беларускай школы, потым інспектарам беларускіх школ Слонімскага павета. Шмат чытаў беларускіх выданняў з Вільні. Бежанства далося ім не дужа лёгка, як і астатнім беларусам, якія змаглі вярнуцца дамоў. А тут трэба было пачынаць жыццё па-новаму. Усё гэта бачыў малады 35-гадовы настаўнік. І вельмі жадаў, каб беларусы дома хутка абжыліся, каб мелі свой дом, зямлю, гаспадарку. Янка шчыра перажываў за ўсё і за ўсіх. Аднойчы ён нават напісаў верш "Жаданне", які даслаў у Вільню ў рэдакцыю газеты "Незалежная Беларусь". І верш надрукавалі ў першым нумары за 1919 год. Праўда, пра тое, што Янка Бялькевіч займаўся паэзіяй, ніхто ніколі не пісаў. Аказваецца, наш вядомы мовазнавец пачынаў свой шлях з паэзіі. Вось як гучаў той першы верш "Жаданне":




*Шчабячы, ты салавейка,*
*У зялёным гаі,*
*Залівайся як жалейка*
*Ў родным маім краі.*
*Прапяі ты, міла птушка,*
*Як жывуць на свеце*
*Беднай маёй Беларусі*
*Нешчаслівы дзеці.*
*Дзе яны цяпер блукаюць,*
*Па якіх дарогах,*
*І як яны абіваюць*
*Чужыя парогі?..*
*І якую яны зносяць*
*Пагарду, пакуту…*
*І як яны Бога просяць,*
*Каб змяншыў іх мукі.*
*Каб памог ім Бог сабрацца*
*Каля сваёй маткі,*
*Сваю ўласну збудаваці*
*Хоць маленьку хатку.*
*1919 г.*

Для паглыблення сваіх педагагічных ведаў Янка Бялькевіч паступіў на этнолага-лінгвістычнае аддзяленне толькі што адкрытага Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Ён не прапускаў ніводнай лекцыі, выступаў на семінарах з грунтоўнымі навуковымі рэфератамі па пытаннях беларускай і рускай філалогіі, удзельнічаў у розных гуртках. Яшчэ студэнтам Янка Бялькевіч па заданні слоўнікавай камісіі Інбелкульта збірае лексічны матэрыял для тлумачальнага слоўніка беларускай мовы, распісваючы на картцы творы Ядвігіна Ш. і Максіма Багдановіча. Адначасова студэнт Бялькевіч запісвае і сістэматызуе беларускія словы з іншамоўнымі каранямі, мяркуючы скласці слоўнік іх.

Пасля заканчэння ўніверсітэта Янка Бялькевіч пачаў працаваць дырэктарам Мсціслаўскага педагагічнага тэхнікума. Па просьбе слоўнікавай камісіі Інбенкульта ён збірае і сістэматызуе матэрыялы для дыялектнага слоўніка ўсходняй часткі Магілёўскай вобласці. У вольны час ён выязджае ў раёны, запісвае новыя словы і правярае запісаныя. Напрыканцы 1926 года картатэка будучага слоўніка ўжо налічвала 15 тысяч лексічных адзінак. Часопіс "Наш край" (1928, № 12. С.50) паведамляў пра першыя поспехі Бялькевіча: "Словы на першыя літары слоўніка ўжо апрацаваны ўкладальнікам…".

Паралельна з укладаннем слоўніка Янка Бялькевіч даволі часта выступае на старонках розных беларускіх выданняў. У прыватнасці, на старонках "Узвышша" ён друкуе рэцэнзіі на слоўнікі, рэзка выступае супраць ужывання ў беларускай літаратурнай мове слоў *акаляць* і *акаляючы* са значэннем рускіх *окружать, окружающий* (нататка "Аб слове *акаляць*"(Узвышша, 1928, № 2) і г.д.

У Янкі Бялькевіча было шмат планаў і задумак. Але ён хутка будзе арыштаваны ДПУ БССР па справе "Саюза вызвалення Беларусі". Гэта здарылася 17 лютага 1930 года. І хоць вінаватым ва ўсім ён сябе не прызнаў, паводле пастановы калегіі АДПУ СССР ад 10 красавіка 1931 года яго саслалі на 5 гадоў у Іашкар-Алу. Там працу над беларускай філалогіяй яму замянілі працай на лесапавале. А калі вызваліўся, выехаў у Данецкую вобласць, дзе выкладаў у школах рускую мову і літаратуру.

У 1948-1958 гадах працаваў у розных навучальных установах Жданава. Але і там, далёка ад Радзімы, Янка Бялькевіч не спыняў працу над слоўнікам. Ён вельмі хацеў вярнуцца на Беларусь, але да канца жыцця на гэта не атрымаў дазволу. Сэрца не вытрымала такой знявагі. За месяц да смерці яго рэабілітавалі, а ў кастрычніку 1960 года даследчыка нашай мовы не стала.

Клопаты аб выданні "Краёвага слоўніка ўсходняй Магілёўшчыны" пасля смерці Янкі Бялькевіча ўзялі на сябе яго жонка Ніна Мікалаеўна Улашчык і сын Узяслаў. І ў 1970 годзе ён пабачыў свет. Гэты слоўнік - адзін з самых поўных і грунтоўных з ліку ўсіх вядомых рэгіянальных (абласных) слоўнікаў беларускай дыялектнай мовы. Слоўнік Янкі Бялькевіча з'яўляецца багатым зборам лексікі жывой народнай мовы насельніцтва ўсходняй часткі Магілёўскай вобласці. Ён змяшчае каля 20 тысяч слоў.

Вялікае слоўнае багацце, сабранае Янкам Бялькевічам, даўно просіцца перавыдання, перавыдання не толькі слоўніка, а і іншых яговых прац.

Да сённяшніх дзён не ўшанавана памяць пра Янку Бялькевіча на Слонімшчыне. Няма яму помніка, мемарыяльнай шыльды, няма вуліцы, якая б насіла яго імя… Гэты славуты беларускі лексікограф і лексіколаг застаецца пакуль невядомым для нашчадкаў.

Таму выхад кнігі "Янка Бялькевіч і яго "Краёвы слоўнік Усходняй Магілёўшчыны" пад рэдакцыяй Уладзіміра Кажамякі - гэта першая сур'ёзная цаглінка ў падмурак памяці пра гэтага таленавітага беларускага педагога і мовазнаўцу.

***Сяргей ЧЫГРЫН.***

# Не стала таленавітага паэта Юры Карэйвы



Толькі цяпер з Ліды прыйшла сумная вестка - 5 студзеня не стала аднаго з таленавітых паэтаў Гарадзеншчыны Юры Карэйвы. Гэта Юра пісаў і пакінуў нам цудоўныя паэтычныя радкі:

*Насустрач чорным сілам хіжым*
*Усе мы выйдзем, як адзін!*
*Вось толькі б выйсці,*
*Толькі б выжыць…*
*А там, нарэшце, -*
*Паглядзім!..*

Юра Карэйва нарадзіўся 29 траўня 1961 года ў Лідзе. Закончыў СШ № 4 (1978 г.) і філалагічны факультэт Гарадзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы (1995 г.). Працаваў выкладчыкам у Гародні ў СШ № 26 і 18. Навучаўся пры касцёле Святога Духа ў Вільні, а потым вучыўся ў Маскве ў Сучасным Гуманітарным Універсітэце на юрыдычным факультэце. З вершамі Юра Карэйва выступаў у многіх рэспубліканскіх выданнях. Быў рэдактарам альманахаў "Ад лідскіх муроў" (№ 4, № 5). Аўтар зборнікаў вершаў "Краявід" і "З разбітае ліры". Напісаны ім і не выдадзены сотні паэтычных твораў. Калі Юра Карэйва вучыўся ў Гарадзенскім універсітэце, ён быў адным з актыўных сяброў універсітэцкага літаб'яднання "Наднёманскія галасы", яго вершы з задавальненнем друкавалі розныя беларускія выданні. Паэтычныя радкі паэта адрозніваліся ад іншых сваёй філасофічнай афарбоўкай і роздумам пра жыццё:

*Гляньце ж, вы, -*
*ад народзін да крыжа*
*Шлях ваш -*
*церні ды ў цемры знічы…*
*Дык ці ж хочаце,*
*хто яшчэ выжыў*
*Заставацца навечна з нічым?..*




Ю. Карэйву пахавалі ў Лідзе на гарадскіх могілках "Зосіна-2".

***Барыс Баль,***
*Беларускае Радыё Рацыя.*

### Мне Мова - Божым Словам

Мне мова - Божым Словам,
мне слова мовы - Бог.
І нам ад духа злога
Яго наш Бог збярог.

Мне Слова - ад Скарыны,
ад слоў святых яго,
каб злыдні не скарылі,
не спламяніў агонь.

Таму яно - Святое.
Яго нам Бог слаў звыш.
Хто памятаў пра тое,
Той смела ішоў на крыж.

А хто зракаўся мовы,
Той кару ў тым знайшоў,
праклёнам пяруновым
даўно на дым сыйшоў.

Святое ж моцы Мовы
парушыць не змаглі.
Змагалі зноў і знову -
і ўстала з тла, з зямлі!

І слова з тла паўсгала
і паміж нас жыло ...
Ды зноў прыйшла навала
звясці Яго на тло.

Ізноў, мой Божа мілы,
ліхі прадажнік - хам
грукоча, што ёсць сілы,
ў Святое Мовы Храм.

Ён здзекуецца з Мовы,
Якое ў Ім служу,
ён прагне чорным словам
спаганіць мне душу.

Не чуе просьб, ні грозьбаў,
што хмары шлюць з Нябёс.
Злюцца мае просьбы
з дажджом Хрыстовых Слёз!

Ён мне з пакутных Ранаў
дашле Свайго Святла!..
Я Словам на тыранаў
паўстану нават з тла!

***Юра Карэйва.***
15.06.98 г.





# "МАЛЯЎНІЧАЯ БАЦЬКАЎШЧЫНА":
## 20 ГАДОЎ КАЛЯНДАРНАЙ ТАЛАКІ

*Якія бываюць календары? Прыватныя, сямейныя, карпаратыўныя. Фірменныя, офісныя, інтэр'ерныя. Эксклюзіўныя... Бадай, кожны каляндар нашай серыі - заўсёды культурна-пазнавальны, даследніцкі, незалежны. І заўсёды на беларускай мове. Але найперш ён нясе харастводы і эстэтыку.*
***В. Дранчук.***




Зайздросная мэтаскіраванасць і стваральная ўпартасць уласцівыя аўтару каляндарнай серыі "Маляўнічая Бацькаўшчына" Валеру Дранчуку. Без гэтага не было б сёлетняга дваццацігадовага юбілею яго аўтарскага выдання дзеля праслаўлення і абароны фундаментальных каштоўнасцяў - прыроды, мовы, культурных набыткаў народа.

- Падстава і час заснавання каляндарнай традыцыі гістарычна ўнікальныя, - падсумоўвае Валер Дранчук. - Гэта сумежжа стагоддзяў, XX і XXI-га, імкненне ўвайсці ў дзверы будучыні праз сімвалічную годную арку. А што, як не прырода, ёсць самай лепшай аздобай будучыні, хіба не яна найпраўдзівы гарант прывабнай і вольнай краіны!

На гэты, прыродна-пазнавальны і культурны напрамак выданняў ахвотна пагадзіўся генеральны дырэктар ААТ "Мінскводбуд" Сцяпан Паўловіч. Дзякуючы яму і калектыву прадпрыемства, якое ўзяло на сябе фінансавую частку праекта, выдадзены календары "Нясвіж. Водна-паркавы ландшафт"(2001), "Міхал Сяўрук. Графіка травы і лісця" (2003), "Напалеон Орда. Сядзібна-паркавы краявід" (2007), "Святая вада Беларусі" (2009), "Дзіцячыя экалагічныя пленэры на хутары Гаравзна (2010), "Дубы. Дубровы. Краявід" (2010), вялікафарматныя календары да 130-годдзя Янкі Купалы і Якуба Коласа (2011-2012 гг.) ды інш.

Падчас эканамічных цяжкасцяў выжыванню праекта паспрыяла незалежная грамада, ТБМ і яго сябры. На выданне календара "Ідыліі. Самадзейны мастак Хведар Вініцкі" (2017 г.) ахвяравалі сродкі дзясяткі будучых карыстальнікаў - удзельнікаў першай "культурнай талакі" з вёсак Карцэвічы, Малева, Саская Ліпка, Альхоўка, з Гарадзеі, Нясвіжа і Менска, з Германіі і Вялікабрытаніі. У апошнія гады выдадзены календары "Невядомая Нясвіжчына", "Касцёл у Новых Навасёлках", "Маляванкі ў Ваш дом", каляндар-постар "Міхал Сяўрук" (да 115-годдзя з дня нараджэння).

Юбілейны каляндар "Выбранае. Жыве Беларусь!" на 2021 год складзены з папярэдніх, больш як двух дзясяткаў календароў. Фотавобразы месяцаў не паўтараюць дакладна рэтравыпускі, але абавязкова адпавядаюць іх геаграфіі і характару. На кожнай старонцы аўтар падае кароткія цытаты са сваіх змагарных кніг і лістоў, занатовак з "зялёнага дзённіка", выступленняў на прэзентацыях. На старонцы лютага чытаем: *"Шчырая замілаванасць да прыроды, любых сэрцу краявідаў мусіць ісці поруч са словамі набатнай праўды, калі прырода спусташаецца і дэградуе".* Старонка ліпеня цытуе радкі з адкрытага ліста ў адказ на масавыя высечкі старых дрэў: *"Парадак" - сінонім хараства і гармоніі, а не хворай тэхнакратыі. Авёс вырастае за год, а дрэва расце гады і стагоддзі".*




20-гадовы юбілей "Маляўнічай Бацькаўшчыны" супадае з жыццёвым юбілеем аўтара. Таму выданне календара "Выбранае. Жыве Беларусь!" мае дзве святочныя нагоды. Праўда, як зазначае Валер Дранчук, юбілеі мінаюць - ідэі застаюцца. Новыя тэмы патрабуюць рэалізацыі. Хочацца спадзявацца, каляндарная серыя "Маляўнічая Бацькаўшчына" будзе мець свой працяг, каб "несці хараство і эстэтыку" роднай зямлі і матчынай мовы.

***Вольга Карчэўская.***
*Нясвіж.*

# Чаўшклі? Чашэйкі? Горнае Скробава?..
## *Дзе вучыла дзетак маладая паэтэса?*

У доўгім жыцці вядомай беларускай паэтэсы, заслужанага дзеяча культуры БССР Канстанцыі Буйло (Калечыц) (1893-1986), якую Максім Гарэцкі ў сваёй "Гісторыі беларускай літаратуры" назваў "найбольш выдатнай пасля Цёткі жаноцкай сілай у нашай паэзіі", ёсць і "лідская старонка": у 1914 годзе, у 21-гадовым узросце, яна настаўнічала на Лідчыне. У тым жа годзе выйшла яе кніга вершаў "Курганная кветка" пад рэдакцыяй народнага паэта Беларусі Янкі Купалы. Мастаком-афармляльнікам вокладкі тае кнігі быў вядомы мастак Язэп Драздовіч, які, дарэчы, пакінуў нам у спадчыну і карціны з выявай Лідскага замка. Варта таксама адзначыць, што ўсяго годам раней, у 1913 годзе, Канстанцыя Буйло напісала адзін з самых вядомых сваіх вершаў - "Люблю" ("Люблю наш край…"). Песня, напісаная пазней на гэты верш, стала народнай. Дзе менавіта настаўнічала паэтэса на Лідчыне? Гэтае пытанне хвалявала многіх даследчыкаў. Паспрабаваў знайсці адказ на яго і навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, куратар Дома паэта Валянціна Таўлая ў Лідзе Алесь ХІТРУН. Аб гэтым наша з ім гутарка, прыведзеная ніжэй.

- У мяне былі сяброўскія адносіны з лідскім краязнаўцам, былым галоўным рэдактарам і журналістам газеты "Уперад" (цяпер "Лідская газета") Аляксандрам Васільевічам Жалкоўскім - расказвае Алесь Хітрун. - Яшчэ да маёй працы ў музеі ён перадаваў мне газетныя выразкі, рукапісы, кажучы, што, можа, калі-небудзь яны мне спатрэбяцца. Праз шмат гадоў я прагледзеў гэтыя паперы і знайшоў сярод іх матэрыял, які датычыцца месца работы Канстанцыі Буйло на Лідчыне. Вось некаторыя вытрымкі з гэтага матэрыялу:

*"У даведачнай літаратуры сказана, што Канстанцыя Антонаўна настаўнічала на Лідчыне, месцам яе работы названы маёнтак Чаўшклі. Было гэта ў 1914 годзе, пасля заканчэння будучай паэткай кароткачасовых настаўніцкіх курсаў. Дзе ж той маёнтак?.. Нядаўна мне* (Аляксандру Жалкоўскаму. - Заўв. аўт.) *давялося быць у Маладзечанскім раёне. Там пазнаёміўся з кнігай "Памяць" гэтага рэгіёна. Сустрэў у хроніцы нататку пра Канстанцыю Буйло, біяграфія якой звязана і з г. Маладзечна, і адкрыў для сябе новы факт. Там сказана, што наша шаноўная асветніца вучыла сялянскіх дзетак на Лідчыне ў вёсцы Чашуйкі. Такога паселішча ў Лідскай старонцы няма, а ёсць вёска Чашэйкі, адносіцца да Ваверскага сельсавета. Дык ці не ў Чашэйках працавала маладая настаўніца ў далёкім 1914 годзе?.. Што тычыцца назваў населеных пунктаў, то іх скажэнні ў канцылярскіх паперах і нават у даведніках - справа не такая ўжо і рэдкая. Так з'явілася падстава меркаваць, што Канстанцыя Буйло працавала настаўніцай у Чашэйках. Але гэта неабходна пацвердзіць калі не дакументамі, то хоць бы сведчаннямі людзей. Магчыма, на публікацыю адгукнуцца старажылы, што родам са згаданай ці суседніх вёсак, якія чулі ад сваіх бацькоў ці дзядоў, як іх вучыла пані настаўніца з Вільні".*

***- Дык што, выходзіць, Канстанцыя Буйло працавала настаўніцай у нашых Чашэйках?***

- Магчыма, але не ўсё так проста. Была і вёска з назвай Чаўшклі, і размяшчалася яна ў Ашмянскім раёне Маладзечанскай вобласці - гэта непадалёку ад тагачаснага Лідскага павета. А калі верыць меркаванню Аляксандра Жалкоўскага, што гэта можа быць вёска Чашэйкі, якая знаходзіцца ў Ваверскім сельсавеце Лідскага раёна, то тут можна засумнявацца. У Іўеўскім раёне таксама ёсць вёска Чашэйкі, і ў свой час яна ўваходзіла ў Трабскую воласць Ашмянскага павета Віленскай губерні, потым - у Трабскую гміну Валожынскага павета Навагрудскага ваяводства Польшчы. Вядома, што ў мястэчку Вішнева Валожынскага раёна прайшлі дзіцячыя і юнацкія гады Канстанцыі Буйло (імя паэтэсы прысвоена Вішнеўскай сярэдняй школе). Дык ці не сюды, у вёску Чашэйкі Іўеўскага раёна, якая ўваходзіць у склад Юрацішкаўскага сельсавета, накіравалася будучая паэтэса на настаўніцкую работу? Гэта больш верагодна. І гэтая вёска таксама непадалёку ад Лідчыны.

***- Алесь, у тваім даследаванні сустракаецца яшчэ адна назва вёскі…***

- У творы пісьменніцы Марыі Купчынавай "Изгибы истории, или Семь загибов на версту. Часть 3" (пра жыццё і творчасць Канстанцыі Буйло) гаворыцца, што Канстанцыя, скончыўшы кароткатэрміновыя настаўніцкія курсы ў Вільні, рыхтуе вучня да паступлення ў гімназію ў доме яго бацькоў. Пра якога вучня тут ідзе гаворка? З кнігі "Літаратурная Брэстчына: краязнаўчыя нарысы, партрэты, артыкулы" (2008, аўтары - В. Ляшук і Г. Снітко) мне стала вядома, што ў Баранавіцкім раёне Берасцейскай вобласці ёсць вёска Горнае Скробава (уваходзіць у склад Гарадзішчанскага сельсавета). Сюды ў 1912 годзе (як бачым, ёсць нестыкоўка з годам) прыехала працаваць хатняй настаўніцай Канстанцыя Буйло, якая пасля заканчэння настаўніцкіх курсаў шукала любы заробак і ахвотна прыняла запрашэнне памешчыка Дзеўчапольскага падрыхтаваць ягонага сына Толю да паступлення ў гімназію. Памешчык шукаў на месца настаўніцы менавіта дзяўчыну, бо Толя нядаўна страціў маці. Сын Дзеўчапольскага вельмі палюбіў маладую настаўніцу. У Горным Скробаве Канстанцыя Буйло вучыла таксама сыноў панскага эканома. Дарэчы, у маёнтку Дзеўчапольскага маладая паэтэса напісала шмат вершаў (магчыма, і знакаміты "Люблю"), дзве п'есы.



***- Але ці ўваходзіла вёска Горнае Скробава ў Лідскі павет?***

- Берасцейская вобласць суседнічае з Гарадзенскай. Візуальна на карце Горнае Скробава знаходзіцца непадалёку (праз пяць кіламетраў ад паўночнай ускраіны вёскі праходзіць мяжа з Гарадзенскай вобласцю). Я прыйшоў да думкі, што Канстанцыя Буйло, ведаючы, што непадалёку размяшчаецца тэрыторыя лідскіх зямель, аднесла тую мясцовасць, дзе працавала, да Лідскага павета.

***- У цябе ўзнікла і пытанне нарэшце навучальнай установы, дзе Канстанцыя праходзіла кароткатэрміновыя настаўніцкія курсы. Раскажы, калі ласка, і аб гэтым.***

- Наш музей зрабіў запыт у Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы з просьбай прадаставіць інфармацыю аб беларускай паэтэсе Канстанцыі Антонаўне Буйло, а менавіта - куды яна была накіравана па размеркаванні з Віленскага ўніверсітэта прыкладна ў 1912-1914 гадах. Праз пэўны час прыйшоў адказ, у якім паведамлялася, што з 1832 да 1919 года Віленскі ўніверсітэт быў закрыты, навучанне ў гэтай установе ў дадзены адрэзак часу не праводзілася, а значыць, Канстанцыя Буйло перад Першай сусветнай вайной не магла скончыць настаўніцкія курсы ў Віленскім універсітэце. Узнікае яшчэ адно пытанне: у якой установе адукацыі Вільні паэтэса скончыла кароткатэрміновыя настаўніцкія курсы? Можа, у прыватнай установе? Гэта таксама трэба высветліць.

Увогуле, складваецца ўражанне, што Канстанцыя Антонаўна спецыяльна заблытвала літаратуразнаўцаў. Вось што пісала яна сама ў пісьме да сястры Іны: *"Мяне вельмі хвалюе мой архіў, я многае знішчаю паціхеньку, не хачу, каб пасля мяне хтосьці капаўся ў маёй душы, у маіх запісах, у маім вельмі складаным і вельмі горкім жыцці".* Магчыма, у архіве паэтэсы былі і запісы аб яе настаўніцкай рабоце ў маладосці, якія маглі б дапамагчы ў вызначэнні дакладнага месца гэтай работы. Ці сапраўды на Лідчыне яна настаўнічала і ці мае яна дачыненне на лідскай зямлі? На жаль, гэтых запісаў мы ўжо ніколі не знойдзем.

*Гутарыў*
***Аляксей КРУПОВІЧ.***


***Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік***

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі*** № 908 ад 18 снежня 2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
***Адрас рэдакцыі:***
231293, Лідскі р-н, в. Даліна.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** naszaslowa@tut.by

***Рэдакцыйная калегія:***
Эдуард Акулін, Алена Анісім, Алеся Аўласевіч, Юрась Бабіч, Марыя Баравік, Аляксей Карпенка, Эла Оліна, Ігар Пракаповіч, Аляксей Пяткевіч, Станіслаў Суднік, Людвіка Таўгень, Алег Трусаў, Дзяніс Тушынскі, Аляксей Шалахоўскі.

**http://nslowa.by/**
**http://pawet.net/ http://kamunikat.org/**
**http://tbm-mova.by/ http://belkiosk.by/**

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі. Рэдакцыя рукапісы не вяртае.***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Выдавец: Установа інфармацыі "Выдавецкі дом ТБМ".
Газета падпісана да друку 8.02.2021 г. у 17.00. Замова № 169.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 1200 асобнікаў.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 2,65 руб., 3 мес.- 7,95 руб.
***Кошт у розніцу:*** па дамоўленасці.